Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455 Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 515 Сьнежань 20 Год выданьня 56

## Рада Беларускай Народнай Рэспублікі

Прэзыдыюм



Лістапад 2005 году, Атава, Канада

Дарагія суродзічы!

Зноў надыходзяць угодкі Слуцкага Чыну, якія мы адзначаем кожны год як наш Дзень Герояў. 85 гадоў таму, ня гледзячы на безнадзейную сытуацыю, нашыя героі-случчакі пайшлі бараніць Беларускую Народную Рэспубліку супраць навалы з Усходу.

Адзначаючы іх гераічны чын, прашу задумацца над любоўю змагароў да свае Бацькаўшчыны. Хаця сродкі змаганьня сёньня іншыя, толькі любоў можа выратаваць наш край ад новага замаху на нашую дзяржаву, якую той самы ўсходні малазычлівы сусед хоча праглынуць з дапамогаю свайго "траянскага каня" ў Менску.

Ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі вітаю Вас з гэтым вялікім нашым беларускім Сьвятам, Сьвятам Памяці Герояў, якія ішлі "паміраць, каб жыла Бацькаўшчына".

Жыве Беларусь!

***Івонка СУРВІЛЛА, Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі***

## Заява Рады Беларускай Народнай Рэспублікі



### Зьмены Крымінальнага кадэксу Рэспублікі Беларусь

Рада БНР разглядае прыняцьце Палатаю прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь папраўак да Крымінальнага Кодэксу як чарговы крок у легалізацыі тэрору, скіраванага супроць усякай палітычнай, рэлігійнай, грамадзкай ці культурнай ініцыятывы, калі такая ініцыятыва непадкантрольная афіцыйнай уладзе.

Крыміналізацыя грамадзянаў за гэтак званую "дыскрэдытацыю Рэспублікі Беларусь" і за іхні ўдзел у грамадзкім жыцьці нішчыць права грамадзянаў на свабоду слова і свабоду асацыяцыі ды вяртае Беларусь у злачынную практыку часоў сталіншчыны. Папраўкі да Крымінальнага Кодэксу Беларусі таксама груба супярэчаць Канстытуцыі Беларусі 1994 году і міжнародным забавязаньням, узятым на сябе Беларусьсю пры ўступленьні ў міжнародныя арганізацыі, як АБСЭ.

Рада БНР не прызнае права за нелегітымнымі органамі ўлады ў Беларусі прымаць любыя заканадаўчыя і выканаўчыя крокі, якія супярэчаць Канстытуцыі краіны 1994 году і скіраваныя супроць інтарэсаў незалежнай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы.

Рада БНР таксама нагадвае, што любая спроба ўзурпацыі ўлады ў Беларусі, абмежаваньне правоў грамадзян і дзейнасьць, скіраваная на страту дзяржаўнай незалежнасьці, немінуча прывядуць да крымінальнай і маральнай адказнасьці цяперашняга кіраўніцтва Беларусі.

## Але былі случчакі

*(бачынка зь дзёньніка)*




У кожнай нацыі ёсьць свае легендарныя героі. Кожная нацыя беражэ ў сваёй памяці імены людзей, якія некалі былі жывымі, звычайнымі людзьмі, жылі сярод жывых, але так выбіраў час і абставіны, што прымушаў іх зрабіць свой жыцьцёвы выбар. Людзей, якія вызначыліся сярод сучасьнікаў і суайчыньнікаў надзвычайнымі якасьцямі: адвагаю, вернасьцю, ахвярнасьцю. Тых, сваіх надзвычайных і ахвярных, нацыя памятае ў вяках, пяе ім хвалу, складае легенды, каб ганарыцца імі перад іншымі народамі.

Ці-ж беларусы вызначаюцца сярод народаў свёй рахманасьцю, абыякавасьцю, сваёй "хатай з краю" – а таму і адсутнасьцю мужных, ахвярных людзей?

...Некаму-ж вельмі гэтага хочацца: унушыць усяму сьвету – а больш за ўсё самім беларусам – што ня варты гэты народ сваіх герояў, дый герояў сярод іх няма й быць ня можа...

Але... Былі-ж случакі.

Былі звычайныя сяляне. Тыя, хто, як і іхныя продкі зь веку ў век, аралі зямлю, будавалі хаты, садзілі дрэвы, гадавалі дзяцей. І ў кожнага хата была з краю. Бо кожны хацеў спакойна жыць, працаваць і радавацца сваім дзеткам.

А потым быў Слуцкі Чын.

Тыя самыя сяляне, якім хацалася ў крайняй хаце проста жыць і гадаваць дзяцей, раптам пабралі стрэльбы й пайшлі адхіляць бяду ад сваіх хат, у якіх іхныя дзеці маглі-б спакойна жыць і гадаваць сваіх дзяцей.

Так, мы не захоўваем у памяці іхных іменаў – іменаў тых, хто вылучыўся сярод народу сваёй мужнасьцю й ахвярнасьцю, бо іх былі – тысячы. Іх быў – народ.

Яны не былі ўпэўненыя, што пераможуць. Больш за тое: напэўна ведалі, што ня стане сілаў адхіліць навалу. Але сядзець у хаце не змаглі.

Жонкі, сёстры, дочкі пашылі ім у шлях сьцягі й вышылі на іх запаветныя словы: "ТЫМ, ХТО ПАЙШОЎ ПАМІРАЦЬ, КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА".

Ведаючы, што не пераможуць фізічна, яны пайшлі паміраць, каб ніхто ў будучыні ня змог сказаць, што беларусы абыякавыя, нясьмелыя, незгуртаваныя, нерашучыя, неахвярныя...

Досыць!

Некаму-ж вельмі гэтага хочацца.

Каму?

Ці не таму самаму, хто гэтую навалу нам і ўсьцягнуў на карак....

***Ірына ВАРАБЕЙ***

## Рэзалюцыя

### 25-й Сэсіі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі

*5 лістапада 2005 году, Нью Ёрк*

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, разгледзеўшы ўнутраную й міжнародную палітычную сытуацыю ў дачыненьні да Беларусі, адзначае, што:

Пагроза для незалежнасьці Бацькаўшчыны, ня гледзечы на гераічныя высілкі беларускіх патрыётаў, застаецца рэальнаю. Масква актыўна рэалізуе стратэгію паглынаньня Беларусі. Два гады назад расейскі прэзыдэнт Пуцін прапанаваў, каб Беларусь наўпрост увайшла ў склад Расейскай Фэдэрацыі. Хоць Крэмль пакінуў цяпер падобныя заявы сваім палітыкам ніжэйшага ўзроўню, аднак намеры падпісаньня так званага "Канстытуцыйнага Акту Саюзнай Дзяржавы" прымушаюць усе незалежніцкія сілы ў Беларусі й у замежжы, а таксама міжнародную супольнасьць, паставіцца да небясьпекі інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі з усёй сур'ёзнасьцю.

Гэтыя засьцярогі знаходзяць падмацаваньне ў тых фактах, што:

- ад рэтарычных заяваў Крэмль перайшоў да паглыбленьня палітыкі пасьлядоўнага замацаваньня Беларусі ў сфэры свайго вайскова-прамысловага комплексу. Расея ўцягвае Беларусь у адзіную сыстэму супрацьпаветранай абароны пад сваім кантролем, скіраваную супраць краінаў Захаду. На тэрыторыі Беларусі знаходзяцца і ўмацоўваюцца расейскія вайсковыя базы;

- Беларусь уцягваецца ў так званую "адзіную" мытную і пamежную сыстэму, праводзіцца "ўніфікацыя" беларускага заканадаўства адпаведна з расейскімі інтарэсамі. Пляны ліквідацыі беларускай нацыянальнай валюты і ўвядзеньня расейскага рубля не скасаваныя, і прынцыповая "слушнасьць" гэтага ня ставіцца пад пытаньне ані Крамлём, ані рэжымам, які пануе ў Беларусі;

- Крэмль пасьлядоўна блякуе спробы міжнароднай супольнасьці дамагчыся ад беларускага рэжыму крокаў у бок дэмакратызацыі, аднаўленьня прававых нормаў і ўмацаваньня незалежнасьці.

- Спрыяючы маскоўскім памкненьням, лукашэнкаўскі рэжым нішчыць у Беларусі ўсё беларускае. Дзяржаўнае тэлебачаньне і радыё пераведзеныя на расейскую мову, ліквідуюцца беларускамоўныя выданьні, нацыянальна арыентаваныя пісьменьнікі пазбаўленыя магчымасьці друкавацца ў дзяржаўных выдавецтвах. У шмат якіх населеных пунктах дзеці пазбаўленыя магчымасьці вучыцца па-беларуску, бо беларускамоўныя клясы ліквідаваныя. Русыфікацыя сёньня ў Беларусі праводзіцца гэтак інтэнсіўна ўпершыню пасьля правядзеньня зьнішчальнай палітыкі расейскага царызму ў 19-м стагодзьдзі.

***Заканчэньне на бачыне 15***

# Акупацыйная палітыка

(Разьдзел з артыкулу "Прамаскоўскі рэжым")



Акупацыйная палітыка, незалежна ад таго, ці яна ўсталяваная звешнім чынам шляхам агрэсіі з выкарыстаньнем войска і зброі, ці ўнутраным чынам, шляхам маніпуляцыяў улады з выкарыстаньнем разьведкі і калябарацы, характарызуецца аднолькавымі чыньнікамі: падрывам нацыянальных інтарэсаў і зьнішчэньнем кансалідуючых каштоўнасьцяў нацыі.

Паўсюднымі кансалідуючымі каштоўнасьцямі нацыі ёсьць мова, народ, дзяржава, тэрыторыя, незалежнасьць. Могуць імі быць таксама сымболі, традыцыі, асобы, падзеі ды іншыя сакральныя зьявы. Калі нацыянальнае грамадзтва мае і ўсьведамляе свае кансалідуючыя каштоўнасьці – яно моцнае, яно здольнае да культурнага і грамадзкага разьвіцьця. Калі грамадзтва ўсьведамляе, разьвівае і абараняе свае нацыянальныя інтарэсы – яно самадастатковае, здольнае да цывілізаванага самаўдасканаленьня і павышэньня ўзроўню існаваньня.

Першаснае палітычнае дзеяньне, якое Масква стала праз сваю разьведку (і Лукашэнку) рабіць ў Беларусі, – гэта зьнішчэньне як раз кансалідуючых каштоўнасьцяў нацыі ва ўжытку і ў сьведамасьці грамадзтва. Так былі ліквідаваныя нацыянальныя сымболі Беларусі – дзяржаўны Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і герб Пагоня. (Пачытайце іхныя цяперашнія афіцыйна-рэжымныя "праваслаўныя" рэляцыі: Пагоню там ужо называюць "езьдзец".) Гэтак (праз палітыку "двухмоўя") была, фактычна, пазбаўлена дзяржаўнага статусу беларуская мова і падважаны сувэрэнітэт нацыі.

Наступны этап – зьнішчэньне носьбітаў аб'ядначых ідэяў, аб'ядначых словаў, паняцьцяў, кансалідуючых зьяваў і аб'ектаў, адлучэньне маладога пакаленьня ад сутнасных каштоўнасьцяў народу.

Гэтак напачатку было забаронена слова "народны", потым – "беларускі" і "нацыянальны". Усё забаронена, нацыянальнае (па лёгіцы акупацыйнага рэжыму) павінна зьнікаць, выкрэсьлівацца з ужытку, выключацца з жыцьця. Найперш робіцца гукавы вакуум, паняцьце "беларускае" павінна перастаць шырока існаваць у грамадзтве і ў сьвеце, мусіць, па задуме русыфікатараў, сьціраца зь сьведамасьці. Гэта адназначны прыём расейскіх душыцеляў ужываўся яшчэ ў XIX-м стагодзьдзі ў палітыцы розных цароў, сатрапаў мураўёвых ды карнілавых, пазьней ім карысталіся расейскія камуністы.

Самымі ненавіснымі для акупантаў зьяўляюцца кансалідуючыя носьбіты нацыянальных зьяваў, вобразаў і народных ідэяў, ці гэта жывыя людзі (палітыкі, мастакі), ці сакральныя асобы – ўвасабленьне духу і культуры нацыі. Іх перасьледуюць і стараюцца зьнішчыць у першую чаргу. Гэтак акупацыйны рэжым Лукашэнкі аплёўваў вялікага Васіля Быкава, па-хамску зьдзекваўся з яго́най выдатнай творчасьці, выгнаў яго зь Беларусі ды загнаў у магілу (залічасная сьмерць Быкава на рахунку лукашысцкага рэжыму).

Гэтак перасьледуецца вялікі Скарына. Чужому чалавеку, які не разумее прычыны зьяваў, усё гэта здаецца абсурдам ці нейкай дурнотай рэжыму. Але на справе – рэжым не "дурны", зьнішчэньне беларускай нацыі адбываецца вельмі рацыянальна, тэхналягічна прадумана і пасьлядоўна, крок за крокам, прытым сплянаваны нават канец (завяршальны этап).

Праспэкт Скарыны быў перайменаваны, з пункту гледжаньня нішчыцеляў, тэхналягічна "правільна" – без тлумачэньняў. Скарына ня толькі вядомы і штодзённа ілюстраваў культурную эўрапейскую веліч беларусаў, але ўскосна паказваў на адсталасьць Масквы. Імя Скарыны пачынаюць мэтаскіравана звужаць ва ўжытку, выкрэсьліваць з памяці. Наступны этап – забарона штогодніх Скарынаўскіх чытаньняў ля помніка Скарыну ў Полацку (ізноў-жа, без тлумачэньняў). Чарговы факт – на Дзень беларускага пісьменства ў Камянцы не запрашаюць беларускіх пісьменьнікаў і г. д. Беларускую літаратуру, як важнейшы чыньнік нацыі, даўно і скіравана вынішчаюць, штучна ствараюць неспрыяльныя ўмовы для яе існаваньня, беларускія пісьменьнікі, па задуме пляніроўшчыкаў этнацыду, не павінны фігураваць у народзе, на віду, у грамадзтве.

Беларусы павінны зразумець, што ўсе гэтакія антыбеларускія факты ня ёсьць толькі хаатычным адлюстраваньнем пазыцыі ці вынікам антыбеларускай настроенасьці рэжыму. Гэта ёсьць праявы сыстэмнай разбуральнай працы па вынішчэньні нацыі, якая робіцца прадумана, плянава і пасьлядоўна.

З усіх камуністычных сатрапаў ніхто не зрабіў столькі шкоды беларускай нацыі як П. Машэраў. (Галоўныя яго злачынствы: ліквідацыя беларускай школы, нішчэньне беларускай мовы, русыфікацыя, меліярацыя, пачатак зьнішчэньня беларускай вёскі.) Рэжым Лукашэнкі працягвае гэтую разбуральную палітыку. Машэраў для Лукашэнкі павінен-бы стаць гэтак, як Андропаў для Пуціна. І тым ня менш, побач з Скарынам нішчыцца і памяць пра сатрапа. Абсурд. У чым-жа прычына, дзе лёгіка?

Лёгіка ў тым-жа – у акупацыйнай палітыцы зьнішчэньня народу. За часы Кебіча пра Машэрава быў створаны міт "чэснага камуніста", які нібыта падняў Беларусь. Людзей пераконвалі, што Кебіч, рыхтуючыся на прэзыдэнта, бярэ, маўляў, з Машэрава прыклад і стане другім Машэравым. Прапаганда правалілася, а міт прыжыўся. Для савецкіх людзей у Беларусі, былых камуністаў і старэйшага пакаленьня, імя Машэрава стала чыньнікам мясцовай беларускай кансалідацыі зьлева, фактарам нацыянальнага яднаньня на ілюзіі, на міталягічным мінулым, якое супрацьстаіцца цяперашчыне і Лукашэнку. Машэраў робіцца "пакутнікам" за лепшую долю Беларусі, якога нібыта забіла брэжнеўская Масква (што таксама вынік фантазіі). Па лёгіцы акупацыйнай палітыкі, міт пра Машэрава для Масквы шкодны, бо набывае нацыянальна-кансалідацыйныя рысы ў асяродзьдзі прамаскоўскай часткі беларускага грамадзтва. Тым больш непатрэбны ён папулісту Лукашэнку.

У гэтую-ж катэгорыю зьнішчэньня ўваходзіць нацыянальная памяць, сакральныя зьявы, месцы і аб'екты. Найбольш уражваюць спроба разбурыць Курапаты (пракладка аўтастрады праз пахаваньні, месца расстрэлаў і масавага генацыду), будаўніцтва гатэля ў Менску на месцы будынка тэатру, дзе ў 1852 годзе адбылася пастаноўка "Ідыліі" В. Дуніна-Марцінкевіча, і разбурэньне старога Менску (Верхні горад, Няміга). Гэтак працягваецца акупацыйная палітыка расейскіх цароў і камуністаў.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# ЗАЯВА
## Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША

Дзяржлэпартамэнт ЗША прыняў заяву ў сувязі з папраўкамі да беларускага Крымінальнага кодэксу. У заяве гаворыцца, што "ЗША далучаюцца да Эўразьвязу, каб выказаць чарговы раз сваю занепакоенасьць разьвіцьцём сытуацыі ў Беларусі. Палата прадстаўнікоў ухваліла папраўкі да Крымінальнага кодэксу. Палажэньні закону парушаюць міжнародныя нормы і абавязаньні Беларусі па абароне правоў чалавека, уключна з правам на свабоду сходаў і свабоду выказваньня. Закон скіраваны на запалохваньне грамадзян Беларусі і здушэньне свабоды слова, калі краіна рыхтуецца да прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году.

Злучаныя Штаты заклікаюць Палату прадстаўнікоў Беларусі перагледзець сваё рашэньне і адклікаць законапраект у адпаведнасьці з абавязаньнямі, узятымі па лініі АБСЭ. ЗША таксама заклікаюць уладныя органы Беларусі зрабіць канкрэтныя крокі, каб прадэманстраваць сваё жаданьне паважаць дэмакратычныя каштоўнасьці, каб забясьпечыць поўную павагу да правоў грамадзян Беларусі.

Прыняцьце такога антыдэмакратычнага закону можа прывесьці да сур'ёзных наступстваў для беларускіх уладаў. Злучаныя Штаты гатовыя ўжыць далейшыя абмежавальныя меры супраць адказных уладных органаў у выпадку, калі яны адмовяцца прытрымлівацца міжнародных стандартаў. Разам за Эўразьвязам мы заклікаем улады Беларусі адхіліць гэты законапраект."

*Радыё Свабода*

# Арышт Старшыні БЭЗ у Бэльгіі

Нечакана 8 лістапада 2005 году быў арыштаваны Старшыня Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня ў Бэльгіі Зьміцер Піменаў. Арышт адбыўся падчас пікету галадоўшчыкаў супраць палітычных рэпрэсіяў у Беларусі, калі сп. Піменаў спрабаваў аформіць дазвол для галадоўшчыкаў застацца на месцы пікету напач. Ад першага дня сп. Піменаў аб'явіў галадоўку супраць незаконнага затрыманьня. Арыштаванаму так і не высунулі ніякіх афіцыйных абвінавачаньняў, што ўскладняе працу актывістаў БЭЗу і юрыстаў па яго́наму вызваленьню.

На працягу васьмі дзён яму нават не дазвалялі сустрэчы ні з жонкаю, ні з сябрамі, чаго яны дамагаліся зь першага дня затрыманьня. І толькі тады стала вядома, што яго́ная "віна" – быццам-бы не адбыты тэрмін пакараньня за інцыдэнт, што адбыўся 5 гадоў таму ў цэнтры для ўцекачоў у горадзе Бругэ. Той інцыдэнт быў даўно вычарпаны, бо сп. Піменаў яшчэ ў 2002 годзе быў адпушчаны на свабоду на падставе законаў Каралеўства Бэльгія. З гэтага часу ён займаўся адкрытай і легальнай грамадзкай і палітычнай дзейнасьцю - пад яго́ным кіраўніцтвам праходзілі акцыі, пікеты, разнастайныя сустрэчы як зь беларускімі, так і з эўрапэйскімі палітыкамі. Менавіта актывізацыя яго́най палітычнай дзейнасьці прыцягнула да яго ўвагу бэльгійскіх ворганаў бясьпекі, бо арышт супаў з беспарадкамі ў Францыі.

*Па матар'ялах www.unija.info*

# Урачыстасьць у Англіі

У суботу 26 лістапада 2005 году ў залі Беларускага Культурна-рэлігійнага Цэнтру ў Лёндане адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 85-м угодкам Слуцкага Збройнага Чыну.

Сьвяткаваньне пачалося ў царкве Сьв. Пятра і Паўла, дзе а. Аляксандар Надсон адслужыў паніхіду за тых, хто аддалі свае жыцьці, каб жыла Беларусь! У пропаведзі сьвятар падкрэсьліў важнасьць для беларускага народу гэтае гадавіны, якая не павінна быць забытая, а служыць прыкладам адданасьці й патрыятызму для цяперашняга маладога пакаленьня беларусаў.

Пасьля Багаслужбы прысутныя перайшлі ў Культурна-рэлігійны Цэнтар, дзе, ня гледзячы на дрэннае надвор'е, сабралася ладная грамада суродзічаў.

Спн. Лёля Міхалюк, Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі, адкрыла ўрачыстую частку прывітаньнем удзельнікаў сьвяткаваньня. Яна папрасіла а. Надсона памаліцца за посьпех імпрэзы. Хвілінаю цішы была ўшанаваная памяць сяброў ЗБВБ, якія адыйшлі ў лепшы сьвет сёлета.

Сп. Мікола Пачкаеў прачытаў вельмі зьместоўны рэфэрат на тэму сьвяткаваньня і прывітаньне ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы.

Сп. П. Шаўцоў прадэклямаваў патрыятычныя вершы.

Акадэмія скончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Потым адбыўся пачастунак, дзе удзельнікі сьвяткаваньня змаглі пры кілішку віна абмяняцца думкамі. Час прайшоў вельмі хутка, і ўсім трэба было разьяжджацца дадому па розных кутках Англіі.

*Сыльвэстар БУДКЕВІЧ*

# Весткі з Аўстраліі

## Перавыбары камітэту Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі




Беларускі грамадзкі актыў Адэляйды правёў 19-га лістапада 2005-га году перавыбары камітэту Беларускага Аб'еднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі (далей БАЎПА). На сходзе прысутнічала 13 сябраў аб'еднаньня, да якіх даслаў па поштэ свой голас спадар Мікалай Колес, былы доўгачасовы старшыня БАЎПА. Бальшынёю галасоў (12 супраць 2) актыў выказаўся за працяг на наступныя два гады інфармацыйна-рэпрэзантацыйнай дзейнасьці камітэту БАЎПА управаю ў старым складзе.

Падчас перавыбараў разгарэлася гарачая дыскусія аб шляхах паляпшэньня сапсаваных з 1999 году адносінаў паміж парафіяльным і грамадзкім камітэтамі. Менавіта з таго часу дзьве беларускія арганізацыі пачалі адзначаць беларускія нацыянальныя сьвяты асобна. Магчыма, пасьля перавыбараў парафіяльнага камітэту БАПЦ у Адэляйдзе, два камітэты знойдуць час на абмеркаваньне ня вырашаных за гэты час праблемаў.



Перавыбарчы сход адбыўся ў пяці хвілінах хады ад цэнтру Адэляйды ў Банайтан парку. На сходзе прысутнічалі двое гасьцей зь Бацькаўшчыны.

*Віктар КАВАЛЕЎСКІ*

# Весткі зь Летувы

## Угодкі Слуцкага Збройнага Чыну і Ўладзімера Караткевіча ў ТБК

У Таварыстве Беларускай Культуры 26-га лістапада сёлета адзначылі 75-я ўгодкі зь дня нараджэньня Ўладзімера Караткевіча – паэта, пісьменьніка, вялікага патрыёта Бацькаўшчыны. Заля таварыства была перапоўненая, на імпрэзе прысутнічалі студэнты Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту. Залю ўпрыгожваў партрэт пісьменьніка, выпушчаны ТБМ імя Ф. Скарыны. Агляд жыцьця і творчасьці У. Караткевіча зрабіла Л. Мілаш.

Пасьля прысутныя паглядзелі фільм "Рыцар і слуга". Час бяжыць няўмольна хутка. Здаецца, нядаўна адзначалі 70-годзьдзе, група актывістаў ТБК езьдзіла на радзіму У. Караткевіча ў Воршу, потым у Віцебск, наведалі магілу пісьменьніка на Ўсходніх могілках у Менску, перачытвалі ягоныя творы, кнігі дасьледчыкаў. Як для Караткевіча М. Багдановіч быў прыкладам маральнай чысьціні й духоўнай веліч, так для нас Караткевіч ёсьць прыкладам патрыёта, любові і служэньня Беларусі. Па ягоных творах можна вывучаць гісторыю Беларусі.

Так супала, што ў гэтым годзе адначасова адзначалі і 85-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну. Аб падзеях 20-х гадоў расказаў старшыня ТБК Хведар Нюнька. Ён зачытаў прывітаньне ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, а напрыканцы прагледзелі фільм "На чорных лядах", зьняты па твору Васіля Быкава.

Так у ТБК у Вільні адзначылі дзьве знамянальныя даты, якія пакінулі сьлед у гісторыі Беларусі і маюць служыць прыкладам для моладзі. Таму і студэнты яшчэ доўга не разыходзіліся, абмяркоўвалі, спрачаліся і пра творчасьць і асобу Ўладзіміра Караткевіча, і пара мужнасьць паўстанцаў.

А потым працягвалася размова пра беларускія справы ў Вільні.

Мерапрыемства мела выхаваўчае значэньне для моладзі, і надоўга застанецца ў іхняй памяці.

*Леакадзія МІЛАШ*



# Весткі з Канады

## Зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады

Сёлета ў Таронта 29-га кастрычніка прайшоў 40-ы Зьезд Беларусаў Канады.

На Зьезьдзе прысутнічала Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спн. Івонка Сурвілла.

Са справаздачамі выступілі Старшыня ЗБК др. Пётр Мурзёнак і старшыня тарантаўскага аддзелу ЗБК спн. Надзея Дробіна.

Быў зачытаны шэраг прывітаньняў ад беларусаў з розных краінаў сьвету, сярод якіх – ад старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ Зянона Пазьняка.

Старшынём ЗБК быў абраны сп. Зьміцер Эльляшэвіч.

Пасьля Зьезду выступіў самадзейны тэатар ЗБК з пастаноўкаю спэктаклю паводле п'есы Янкі Купалы "Паўлінка".

*Надзея ДРОБІНА*

## Паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа ў Прошчы Мідленд

Сябры тарантаўскай суполкі Згуртаваньня Беларусаў Канады і мясцовыя беларусы зрабілі 20 лістапада сёлета чарговае паломніцтва да сьвятога для беларусаў месца на канадыйскай зямлі - Беларускага Памятнага Крыжа, што знаходзіцца ў Прошчы блізу Мідленду.

Гэтым разам наведваньне Крыжа было прымеркаванае да ўшанаваньня 85-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Ля Памятнага Крыжа з прамоваю да паломнікаў звярнуўся Старшыня ЗБК Зьміцер Эльляшэвіч.

Ірына Варабей зачытала бачынку з свайго дзёньніка з развагамі аб значэньні для беларусаў паўстаньня супраць савецкай улады.

Дзякан Сяргей Паўзун прачытаў малітву за Беларусь, пасьля якой усе ўшанавалі памяць па загінуўшых героях хвілінаю цішы.

Паломніцтва была арганізаванае з ініцыятывы Ўправы Тарантаўскага аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады й Рады парафіі царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Дзякуй Зьміцеру Эльляшэвічу й Міхасю Тапунову (Старшыні Рады) за добрую арганізацыю і ўсім, хто прыняў удзел у паломніцтве!

*Ірына КАЧЭРСКАЯ*



"Вось і скончылася лета, час дзіцячых канікулаў, адпачынку... Набраўшыся сілаў, хлопчыкі й дзяўчынкі пераступілі парог краіны ведаў...", - такімі радкамі стракацелі старонкі дзяржаўных газэтаў у першыя дні верасьня.

Сапраўды, за лета дзеці падрасьлі: што ні гавары, а гады й прырода бяруць сваё. Але ці ўсе яны адпачылі, падмацавалі здароўе? Ці ўсе яны з задавальненьнем сьпяшаюцца ў краіну ведаў? Пытаньні спрэчныя.

Хачу пачаць з таго, што толькі каля 20% беларускіх дзяцей, якія ідуць у школу, здаровыя. Працягну тым, што каля 30% школьнікаў адпачываюць у санаторыях і лягерох адпачынку, і толькі 5% дзяцей пазнаюць сьвет у падарожжах. Астатнія, як і іхныя бацькі, вымушаныя выбіраць "актыўны летні адпачынак" па традыцыйнай беларускай прычыне – "няма як зьвесьці канцы з канцамі". Дзякуючы асабліваму шляху разьвіцьця", беларускія дзеці, пачынаючы зь дзесяцігадовага (а тое і меншага) узросту, ператвараюцца ў рабоў. Яны дапамагаюць палоць агароды, даглядаць хатнюю жывёлу, нарыхтоўваць сена. Усё было-б добра, каб такая праца была пасільнаю для дзяцей. Вельмі часта яны надрываюцца, хварэюць, але... працаваць вымушаныя. Ведаюць, што не зашкодзіць кубак сьвежага малака, яйка, маладая бульбіна ды морква, на якія ў бацькоў, што старанна працуюць у горадзе на вытворчасьці, не хапае грошай.

Калі пачынаецца сэзон, дзеці, замест таго каб паплёскацца ў рэчцы, пазагараць, пачытаць, пагуляць зь сябрамі, зьбіраюць яблыкі, сьлівы, ягады й грыбы і здаюць іх на перапрацоўчыя заводы. Цягаюць непасільныя мяхі, гадзінамі марнуюцца ў чэргах, каб здаць нарыхтаванае, затым днямі ў чэргах, каб атрымаць грошы. Найчасьцей гэты "курыны" заробак ідзе не на цукеркі, а дапамагае латаць сямейны бюджэт.

Тыя, каму перакуліла за чатырнаццаць, наймаюцца на працу на заводы. Хто ля канвэера дапамагае, хто едзе ў калгас палоць дзялкі, якія замацоўваюць за прадпрыемствамі. Адно з "цудаў" беларускай эканомікі – фінансава "ляжачыя" былыя калгасы, як камень на шыю тапельцу, павесілі на прадпрыемствы, якія самыя на ладан дыхаюць. За школамі, дзяржустановамі мэдыцыны, адукацыі замацавалі гаспадаркі, якія чакаюць дзіцячую амаль дармавую працоўную сілу.

У Беларусі, дзякуючы такому падыходу, топіцца ня толькі сельская гаспадарка, але і дзяцінства маленькіх грамадзянаў. Тапіцца ня толькі ў пераносным сэнсе, але і літаральна. Штогод у "бітвах за ўраджай" гінуць школьнікі, якіх жабрацтва вымушае ісьці працаваць памочнікамі камбайнераў, на сушылкі й зернатокі. За загубленыя дзіцячыя лёсы не адказаў ніводзін чыноўнік.

Калі-ж гаварыць пра дзіцячыя заробкі, то абяцаюць заўсёды прыгожа і шмат, а даюць мізэр. Лічу заробак $14 за дванаццаць дзён праполкі (ажно па даляру ў дзень!) бессаромным зьдзекам.

Аднойчы 14-гадовая дзяўчынка пасьля прагляду замежнага сэрыялу заўважыла: "Негры-рабы пасьля працы зьбіраюцца ля вогнішча, сьпяваюць, танцуюць, а мы пасьля працы ні рук, ні ног ня чуем, нават ежа ў рот ня лезе. Якія ўжо тут танцы?"

Вось жыцьцёвая філязофія "шчасьлівага" беларуса, які "адпачыў і набраўся сілаў за лета".

Для многіх дзяцей пачатак вучобы хоць невялічкае, але выратаваньне. Справа ў тым, што краіна ведаў урачыста сустракае дзяцей 1-га верасьня, а ўжо праз тыдзень вучні 8-11 клясаў едуць на сельскагаспадарчыя працы: спачатку на бульбу, затым на буракі, пазьней – на лён. Дзеці едуць падымаць "здохлыя", давядзеныя палітыкай кіраўнікоў да жабрацкай торбы, гаспадаркі. І зноў дзеці: хварэюць, атрымліваюць траўмы, а нярэдка і гінуць. І зноў вінаватых няма.

Добры месяц працы ў калгасах прымушае потым настаўнікаў даганяць школьную праграму, бо колькасьць дзён у тыдні ды працягласьць дня не павялічыць ніякім дэкрэтам. Дзяцей перагружаць заданьнямі. А гэта зноў фізычнае перанапружаньне, стрэсы, захворваньні.

Але восеньскімі клопатамі праблемы школьнікаў не заканчваюцца. Спушчаны зьверху загад, каб кожная кляса, школа, пазашкольная ўстанова ў час вучобы зарабляла грошы. Грошы для клясы немалыя – 300 тыс. рублёў ($138). Чаму дзеці, якія прыйшлі вучыцца, павінны зарабляць для школы грошы й навошта не тлумачыцца. Паступаюць толькі "мэтадычныя рэкамендацыі" з утульных і сьветлых кабінэтаў. Дзядзькі й цёткі, якія нарадзіліся і выраслі "на асфальце" і ў жыцьці сваім ні разу ня бачылі жывога парася ці каровы, даюць рэкамэндацыі школам, як гадаваць жывёлу, здаваць малако і мяса ды рабіць справаздачы аб зароблены сродках. Ёсьць рэкамэндацыі, якія ператвараюць школы ў барахолкі, бо дзецям прапануюць шыць, вязаць, выпякаць піроржныя, несьці ўсё гэта ў школы ды прадаваць сваім равесьнікам, а грошы накіроўваць на рамонт.

"Калі дзяржава такая бедная і ня ў стане выконваць свае абавязкі, – кажуць старшаклясьнікі, – тады трэба перадаць школы ў прыватныя рукі і не ператвараць нас у спэкулянтаў. Мы ідзём у школу вучыцца. Для працы заплянаваныя адпаведныя ўрокі. Мы ня супраць паказаць свае здольнасьці на школьным кірмашы, але ня трэба рабіць гэтую справу абавязковаю."

Сапраўды так. Пяціклясьнік, да прыкладу, торт не сьпячэ, сяміклясьнік добрую рэч не пашые. Каб неяк выкруціцца, дзеці купляюць у школьнай сталоўцы піражкі ды перапрадаюць іх даражэй. Калі-ж на дапамогу прыходзяць бацькі, то добрую рэч, яны разумеюць, на пустым месцы і зьнічога ня зробіш. За ўласныя грошы трэба набыць муку, яйкі, цукар ды інш. і толькі тады будзе пірог. Трэба купіць тканіну, ніткі, гузікі – тады будзе сукенка. А прадасьць яе дзіця за сымбалічны кошт, бо інакш ня купяць. У выніку кошт не пакрые выдаткаў, а "заробленыя" такім чынам грошы, што пойдуць на рамонт дзяржаўнага аб'екту, узятыя з кішэняў бацькоў.. Дык што гэта за палітыка такая? Наўпрост забаранілі паборы з бацькоў, дык выманьваюць хітрыкамі. Гэта хітрэй за камэрцыйныя піраміды дзялцоў праз якія абдурваюць народ. За такое дзялцоў садзяць у турму (калі зловяць), а дзяржаўным чыноўнікам падзякі выносяць.

# ЭПОХА беларускага рабства



*Дзеці зьбіраюць каласкі ў калгасе на Меншчыне.*

Ну а калі казаць пра кароў-сьвіней, якіх трэба даглядаць дзецям і настаўнікам, то гэта наагул вар'яцтва. Але я ўяўляю, як беларускае тэлебачаньне будзе з замілаваньнем паказваць такіх паслухмяных настаўніц, што круцяць каровам хвасты замест таго, каб рыхтавацца да ўрокаў, займацца самаадукацыяй, шукаць новыя формы працы з дзецьмі.

І вынік такіх новаўвядзеньняў – нізкая якасьць адукацыі. Прычым у вярхох хваляцца адукацыйнымі паказчыкамі, якія растуць, як і ўсё па Беларусі, пад "мудрым кіраўніцтвам". Але ніхто не агучвае, колькі вучняў шукае рэпэтытараў, аплочвае іхнюю працу, вучыцца самастойна, каб мець мэдаль ці стаць студэнтам. Ніхто не гаворыць, што з райцэнтраў едуць вучні да рэпэтытараў у абласныя гарады, у сталіцу, часам за сотні кілямэтраў. Едуць да тых настаўнікаў, якія ня дояць кароваў, не гадуюць сьвіней, не падзарабляюць на рынках, а гадамі настойліва займаюцца сваёю прафэсійнаю працаю, удасканальваюцца і павышаюць кваліфікацыю.

Яшчэ адзін сюрпрыз школьнікам зь сёлетняга году – паступовы пераход да адзінай стылізавана-дзелавой школьнай формы. Згодна, што хлопчык у касьцюмчыку выглядае спрытней чым у спартыўніку. Але кожны мае права выбіраць у чым яму хадзіць; выбіраць ня толькі згодна густу, але і зыходзячы з магчымасьцяў бацькаўскіх заробкаў.

Да таго-ж, адзіная для ўсіх форма для многіх дзяцей – пачатак паэтапнага наступленьня дзяржавы на асобу: спачатку адзіная форма, затым адзіная ідэалёгія, вера. Адным словам: адзеньне – паводзіны – думкі – учынкі – вось тая формула, з дапамогаю якой дарослыя дзядзькі й цёткі стараюцца падпарадкаваць чалавека "з вантробамі" зь дзіцячага ўзросту.

Наконт адзінай ідэалёгіі. На гэтым "фроньце", не за даляр у дзень, працуюць сотні "спэцыялістаў". Іхныя заробкі ў пяць і больш разоў перавышаюць сярэднія па краіне. Іхныя дзеці ня полюць летам дзялкі і не здаюць сьлівы. Самыя-ж ідэолягі не жадаюць жыць у "раі", які стварылі для простых беларусаў. У адпачынак едуць у Эўропу, дзяцей адпраўляюць у Эўропу. Як мага далей ад "квітнеючай, шчасьлівай" Беларусі. Ну а над тымі, хто ня можа зьехаць (няма грошай ці не даюць візаў), зьдзекваюцца з дапамогаю ідэалёгіі.

Устаноўленыя "знамянальныя" даты, якія абавязаны адзначаць у школах. Так, 6-га верасьня на цэнтральнай плошчы Глыбокага сагнаныя з усіх школаў і гімназіяў вучні й настаўнікі "сьвяточна і радасна" адзначылі дзень нараджэньня Беларускага Рэспубліканскага Саюзу Моладзі (БРСМ). Сярод "надта важных" датаў – дзень яднаньня народаў Беларусі й Расеі, выбары прэзыдэнта, дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Выхаваўчыя гадзіны шостага дня тыдня прысьвячаюцца ў большасьці выпадкаў ідэалягічнаму замбаваньню. Дзіцячыя галоўкі шкада, а за настаўнікаў прыкра, бо яны разумныя адукаваныя людзі, паводзяць сябе як безгаловы статак, ідуць туды, куды гоніць пастух. І дзяцей за сабою вядуць. Іхняя абыякавасьць, пасыўнасьць дазваляе разрастацца ў сьвядомасьці дзяцей нікчэмнаму, абсурднаму, злому.

Выяздныя абласныя ды рэспубліканскія "дэсанты" правяральшчыкаў ідэалягічнага выхаваньня штогод высаджваюцца ў райцэнтрах. І лятуць і пух, і пер'е, калі што ня так. Тысячы дзяржаўных рублёў ідуць на аплату "працы" ідэалягічных зампалітаў, на іхныя паездкі, камандзіроўкі. Гэтыя грошы аддаць-бы ў школы на харчаваньне дзяцей, на абсталяваньне сталовых, бо ў многіх зь іх такі посуд, што добры гаспадар з такога сабаку не карміў-бы, ня тое што дзяцей. Гэтыя-б грошы на павышэньне выплатаў шматдзетным, няпоўным сем'ям, на ахову здароўя дзяцей, на павышэньне заробкаў.

Я не хачу казаць пра "клопат" дзяржавы пра дзяцей з малазабясьпечаных сем'яў. Права на мізэрную даплату, бясплатнае харчаваньне дзіцяці ў школьнай сталовай раз на дзень – я не лічу гэта клопатам пра чалавека, бо дзяржава спачатку спрыяе таму, каб сем'і былі малазабясьпечанымі, а потым "дапамагае". Кошт гэтай дапамогі – каціныя сьлёзы ў параўнаньні з сумамі, якія дзяржава, як запраўскі злодзей, абірае зь сем'яў беларусаў. І наагул, я не разумею, як можа быць малазапясьпечанаю сям'я, напрыклад, з чатырох чалавек, у якой і маці, і бацька ня маюць дрэнных звычак і старанна на працягу 20-30 гадоў працуюць на дзяржаву? У цывілізаваных краінах пры такіх парадках самая дзяржава, яе чыноўнікі былі-б малазабясьпечанымі, бо такія іхныя здольнасьці да кіраваньня. У Беларусі ўсё наадварот.

Крывавіць душа, калі бачу пяцігадовае дзіця, якое харчуецца зваранымі бульбяным шалупіньнем, ня ўмее гаварыць і ня ведае смаку цукерак. Смыліць душа, калі бачу, што адзіным вітамінам для некаторых дзяцей зьяўляецца сырая бульбіна, бо бацькі вымушаныя карміць дзяцей на даляр у дзень эканомячы на сабе. Плакаць хочацца, калі бацькі купляюць дзецям таблеткі паштучна, бо на упакоўку не хапае грошай. Самы раз рваць на сабе валасы адказным асобам, бо яны дакіраваліся да таго, што дзіця пазбаўляе сябе жыцьця, бо разумее, што яно "занадта шмат есьць, і з-за гэтага галадае меншы брацік". Час завыць, калі чытаю, што маці забіла чатырохгадовага сына, бо ўбачыла, што ён выпіў малако меншай сястрычкі. Гэтыя малюнкі не з жыцьця далёкай Афрыкі ці мінулых стагодзьдзяў. Гэта рэальнасьць сёньняшняй Беларусі – краіны ў цэнтры Эўропы.

На фоне вышэйсказанага заробак старшыні Цэнтарвыбаркаму Лідзіі Ярмошынай 2 144 000 рублёў у месяц (амаль $1000) выглядае зьдзекам, насьмешкаю, прыніжэньнем годнасьці беларусаў, якія не прадаюць краіну і народ, а проста працуюць. Прайшло больш за дзьве тысячы гадоў ад нараджэньня Хрыста, і трыццаць іудавых срэбранікаў замяніліся тысячаю даляраў. Але Божая праўда жыла, жыве і будзе жыць няхай сабе і ў галодным і прыгнечаным, але моцным духам народзе.

Апісаныя мною эпізоды з жыцьця дзяцей не адзінкавыя, бо больш за палову беларускіх сем'яў жыве за рысаю беднасьці. Ня дзіўна, што ад такога жыцьця сьпіваюцца дарослыя, зьбіваюцца з дарогі падлеткі. Калі ва ўсім сьвеце алькагалізм – хвароба асобы, то ў Беларусі – гэта хвароба дзяржавы, якая пакутуе на прагу ўлады. У сваю чаргу дзіцячы алькагалізм, наркаманія, дзіцячая прастытуцыя – гэта спроба выжыць і плата маленькіх беларусаў за ўкрадзенае дзяржаваю дзяцінства.

Пачатак XXI-га стагодзьдзя ў Беларусі – гэта эпоха дзіцячага рабства, якое сьвядома дэкрэтызавана ўладаю, бо яна добра разумее, што "народжаны поўзаць, лётаць ня зможа", і чарвякамі кіраваць нашмат лягчэй чым птушкамі.

***Г. СУТУЛА, журналістка з Глыбокага***

***Фотаздымак агенцыі "Минск-Новости"***

# Беларусь за месяц

## Вяртаньне ў 1930-ыя

2-га сьнежня палата прадстаўнікоў беларускага парлямэнту прыняла ў другім чытаньні папраўкі ў Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы, якія ўзмацняюць адказнасьць "за дзеяньні, скіраваныя супраць чалавека і грамадзкай бясьпекі". Законапраект паступіў у парлямэнт ад імя Лукашэнкі з пазнакаю "тэрмінова".

У Крымінальны кодэкс дадаецца шэраг новых артыкулаў. Арт. 193-1 (незаконная арганізацыя дзейнасьці грамадзкага аб'яднаньня, фонду альбо ўдзел уім) прадугледжвае, што арганізацыя дзейнасьці ці ўдзел у дзейнасьці арганізацыяў і фондаў, у дачыненьні да якіх уступіла ў сілу рашэньне аб прыпыненьні іх дзейнасьці ці ліквідацыі, будуць карацца штрафам, ці арыштам на тэрмін да шасьці месяцаў, ці пазбаўленьнем волі тэрмінам да двух гадоў.

Падобныя карныя захады тычацца падрыхтоўкі людзей да ўдзелу ў масавых беспарадках, публічных заклікаў да захопу ўлады ці гвалтоўнага зьмяненьня канстытуцыйнага ладу.

Заклікі, зьвернутыя да замежных дзяржаваў, замежнай і міжнароднай арганізацыі, "учыніць дзеяньні ў шкоду вонкавай бясьпекі Беларусі, яе сувэрэнітэту, а таксама распаўсюд матар'ялаў, што ўтрымліваюць такія заклікі", караюцца зьняволеньнем да трох гадоў. Калі заклікі будуць распаўсюджвацца праз сродкі масавай інфармацыі — прымяняецца пазбаўленьне волі на тэрмін ад двух да пяці гадоў.

Але "гвозд праграмы" — новы артыкул Крымінальнага кодэксу "Дыскрэдытацыя Рэспублікі Беларусь". Дыскрэдытацыя — гэта "прадастаўленьне замежнай дзяржаве, замежнай ці міжнароднай арганізацыі загадзя ілжывых зьвестак аб палітычным, эканамічным, сацыяльным, ваенным ці міжнародным становішчы РБ, прававым стане грамадзянаў Беларусі ці яе органаў улады". Падобныя дзеяньні будуць карацца арыштам на тэрмін да шасьці месяцаў, альбо пазбаўленьнем волі на тэрмін да трох гадоў.

Апроч таго, праектам прадугледжваецца магчымасьць затрыманьня органамі крымінальнага перасьледу асобаў, што падазраюцца ў тэрарызме і ўчыненьні злоснага хуліганства, на тэрмін да 10 дзён да прымяненьня меры ўтрыманьня ці вызваленьня з-пад варты.

Такім чынам цяпер пасадзіць у турму могуць кожнага — і грамадзкага дзеяча, што вярнуўся з замежнага сэмінару, дзе расказваў пра становішча ў Беларусі; і журналіста, які засумняваўся на бачынах газэты аб посьпехах беларускай эканомікі ды паставіў пад сумнеў стабільнасьць беларускага грамадзтва. Можа трапіць у турму і звычайны грамадзянін, які зьвернецца ў ААН з просьбаю зьвярнуць увагу на парушэньне правоў чалавека ў Беларусі, альбо на вуліцы выкажа думку аб замене аднаго прэзыдэнта на другога.

Падобнае ўжо было. У 1930-1950-я — у Крымінальным кодэксе БССР існавалі артыкулы "контррэвалюцыйная дзейнасьць" і "антысавецкая агітацыя", паводле якіх альбо высылалі як мінімум на 10 гадоў у савецкія папраўча-працоўныя лягеры, альбо прысуджалі да расстрэлу.

Недзяржаўныя СМІ ўжо назвалі ініцыятыву Лукашэнкі спробаю пeратварыць краіну ў Паўночную Карэю ў Эўропе.

"Гэта завяршаючы этап падрыхтоўкі рэжыму да выбараў. Сёньня ўлада ўжо ня можа апанаваць людзкія настроі, расказваючы пра нібы посьпехі з экрану тэлевізараў. Рэжым разумее, і сёньняшнія падзеі на мотавелазаводзе (25 лістапада там адбыўся стыхійны страйк рабочых, што патрабавалі выдачы заробку за кастрычнік. Некалькі соцень работнікаў выйшлі на Партызанскі праспэкт сталіцы, на нейкі час перакрыўшы рух транспарту. Заробак на Мотавэлязаводзе складае 200-250 тыс. руб (каля 100 даляраў) гэта паказалі, прыніжэньня людзі больш цярпець ня будуць і гатовыя абараняць свае правы на вуліцы. Мэта папраўак адна — як лягчэй і прасьцей пакараць, засадзіць за краты чалавека, які публічна выказвае нязгоду з палітыкай кіраўніка дзяржавы", — заявіў у інтэрвію інтэрнэтпарталу "Хартыя'97" лідэр дэмакратычных сілаў, кандыдат ў прэзыдэнты Аляксандар Мілінкевіч.

Адчуваюць маразматычнасьць паправак і самыя дэпутаты падкантрольнага парлямэнту, паведамляе радыё "Свабода". Так, Уладзімер Дзяленьдзік пацікавіўся: калі нехта з дэпутатаў за мяжою назаве недакладныя лічбы прыросту беларускай эканомікі? Маўляў, існуюць-жа прыпіскі, што пацьвердзілася падчас візыту Лукашэнкі ў Шклоўскі раён. Ці ня трапіць такі дэпутат пад новае заканадаўства? А колішні кіраўнік Купалаўскага тэатру, дэпутат Генадзь Давыдзька пацікавіўся, што зь ім будзе, калі ён паскардзіцца свайму расейскаму калегу, што ў Беларусі занадта высокія цэны на бэнзін? Гэта таксама дыскрэдытацыя Беларусі?

## "Адзіны" паехаў па краіне

Пачаліся паездкі адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў на прэзыдэнцкіх выбарах Аляксандра Мілінкевіча па краіне. Першая паездка была зьдзейсьнена



11 лістапада ў Баранавічы, потым быў Салігорск, вёскі Меншчыны і Наваполацк з Полацкам. Падчас побыту на Полачыне А. Мілінкевіч заехаў у Малое Сітна да Паўла Севярынца, дзе лідэр моладзёвай апазыцыі адбывае "хімію". Тут Мілінкевіч пагутарыў зь мясцовымі рабочымі.

Апроч паплечнікаў Мілінкевіча паўсюль суправаджаюць супрацоўнікі спэцслужбаў зь відэакамэрамі. У Полацку машыны Мілінкевіча затрымалі на 40 хвілінаў, маўляў, аўтамабілі крадзеныя; у Бабруйску, дзе мелася адбыцца сустрэча, ва ўсім квартале адключылі электрычнасьць, і сустрэчу давялося ладзіць пры сьвечках. Ня гледзячы на ціск, Мілінкевіч хоча аб'ехаць да выбараў усе 118 раёнаў. Калі ня будзе правакацыяў, прэсінгу і завядзеньня крымінальнай спарвы пра паклёп на прэзыдэнта

Зь сярэдзіны лістапада запрацаваў сайт адзінага кандыдата (milinkevich.org).

## Наступ на газэты

У падпісны каталёг на 2006 год ня ўключаны амаль усе (каля двух дзясяткаў) беларускія незалежныя газэты, як цэнтральныя, гэтак і рэгіянальныя. Сярод іх "Наша Ніва", "Народная воля", "Салідарнасьць", "Згода", "Рэгіянальная газета" (Маладэчна), "Газета Слонімская", "Вольнае Глыбокае", "Брэсцкі кур'ер". Зь недзяржаўнай прэсы ў каталёгу пакуль засталіся "Белорусы и рынок" і "Белгазета".

Манапаліст распаўсюду газэтаў праз падпіску, дзяржаўнае прадпрыемства "Белпошта" тлумачыць неўключэньне эканамічнай нявыгадай займацца распаўсюдам недзяржаўнай прэсы і эканамічнымі стратамі ад супрацоўніцтва з такімі выданьнямі. Тлумачэньне досыць маразматычнае. Так, "Рэгіянальнай газеце" закінулі неаплату рахункаў, што нібыта дэстабілізавала працу "Белпошты". Гэта запазычанасьць складае 60 тыс. рублёў (менш чым 30 амэрыканскіх даляраў). "Нашу Ніву" наогул ніякім чынам не папярэдзілі пра неўключэньне ў каталёг. "Народную волю" яшчэ раней выкінулі з газэтных шапікаў.

Такім чынам улады пачалі рыхтавацца да прэзыдэнцкіх выбараў. Ня выключана, што праз нейкі час праз "эканамічную нявыгаду" ўсе беларускія друкарні адмовяцца друкаваць недзяржаўную прэсу. Таксама, па чутках, будзе абмежаваны доступ да інтэрнэту. З гэтай нагоды ў Кітаі закупляюць адмысловыя глушылкі, што дазволяць закрыць доступ да шэрагу сайтаў.

## Моляцца за Беларусь

Вернікі царквы Поўнага Эвангельля "Новае жыцьцё" (пастар Вячаслаў Ганчарэнка) пастанавілі 16-га дня кожнага месяца, пачынаючы зь сьнежня, ладзіць малітоўныя служэньні ў знак салідарнасьці з палітычнымі вязьнямі, сваякамі зьніклых палітыкаў і журналістаў.

Біскуп Аб'яднаньня Цэркваў поўнага Эвангельля Аляксандар Саковіч у інтэрвію Радыё Свабода зазначыў, што ўлада сьвядома выштурхнула вернікаў-пратэстантаў на шлях палітычнай дзейнасьці, прыняўшы рэпрэсіўны закон "Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях".

Тым часам вернікі царквы "Новае жыцьцё" здолелі адстаяць сваё права на набажэнства. Парафія атрымала тэхпашпарт, дзе зафіксавана, што будынак, дзе ладзяцца набажэнствы - гэта будынак культу. У верасьні Менгарвыканкам спрабаваў забраць памяшканьне – былы кароўнік на ўскраіне Менску, атрыманы царквою на ўласнасьць у 2002 годзе і адрамантаваны вернікамі.

## Два саюзы пісьменьнікаў

Да двух саюзаў палякаў (чэсны і нячэсны), двух саюзаў журналістаў, дзьвух кампартыяў цяпер дадаліся і два аб'яднаньні пісьменьнікаў. Да афіцыйнага Саюзу беларускіх пісьменьнікаў, што знаходзіўся ў пасыўнай апазыцыі рэжыму, цяпер дадаўся Саюз пісьменьнікаў Беларусі, ляяльны рэжыму. У пятніцу, 18 лістапада, адбыўся ягоны ўстаноўчы зьезд. Старшынём новатвору стаў член савету рэспублікі Мікалай Чаргінец.

Пісьменьнік Валянцін Тарас у інтэрвію Радыё Свабода выказаў думку, што цяпер улады напэўна закрыюць неляяльны ім Саюз беларускіх пісьменьнікаў: "Гэта вельмі горка, але тым ня менш, беларуская літаратура застанецца. Літаратура нашая была, ёсьць і будзе. Гэтыя-ж людзі выставілі сябе на пасьмешышча перад усім сьветам. Саюз пісьменьнікаў, у якім няма Рыгора Барадуліна, Янкі Брыля, Віктара Казько, няма Генадзя Бураўкіна, Сяргея Законьнікава, тут можна пералічваць і пералічваць,— гэта-ж сьмешна сапраўды". 9 сьнежня "нелукашэнкаўскія пісьменьнікі" мусяць сабрацца на сход, каб вырашыць, што рабіць далей.

## Караткевіч на CD і бяз прэміі

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусьціла кампакт-дыск зь песьнямі і вершамі Уладзімера Караткевіча. CD выйшаў у якасьці дадатку да кнігі успамінаў "У. Караткевіч. Быў. Ёсьць. Буду". Упершыню запісы былі зроблены паэтам і літаратуразнаўцам Сяргеем Панізьнікам. На дыску апроч пяці вершаў у аўтарскім выкананьні, ёсьць фрагмэнты опэры У. Солтана "Дзікае паляваньне караля Стаха", музыка С. Картэса для тэатральнага спэктаклю "Званы Віцебску" і А. Залётнева да радыёпастаноўкі паводле твораў Караткевіча, а таксама песьні дуэту Вайханскіх і барда Алеся Камоцкага. Сам пісьменьнік сьпявае свой расейскі раманс, прысьвечаны маскоўскай каханай, і народную баладу "Ой, косю, мой косю".

Затое напярэдадні сьвяткаваньня 75-годзьдзя пісьменьніка віцебскія чыноўнікі скасавалі літаратурную прэмію яго імя, што традыцыйна ўручалася на ўгодкі пісьменьніка. Прэмія імя Уладзімера Караткевіча мела дзьве намінацыі: за прапаганду творчасьці пісьменьніка і за ўласную літаратурную дзейнасьць. За прапаганду творчасьці ўзнагароджаныя калектывы віцебскага тэатру імя Я. Коласа і аршанскага музэю імя У. Караткевіча. Прэміі за літаратурную творчасьць вырашылі не даваць, паводле прадстаўнікоў аблвыканкаму, няма годных намінантаў.

## Цыгарэтам – бой

У Беларусі плянуецца ажыцьцявіць паэтапны пераход да поўнай забароны рэклямы тытунёвых вырабаў. Пра гэта на прэс-канфэрэнцыі 15 лістапада ў Менску паведаміў загадчык аддзелу грамадзкага здароўя Рэспубліканскага цэнтру гігіены, эпідэміялёгіі і грамадзкага здароўя Міністэрства аховы здароўя Андрэй Сякач. Неабходнасьць увядзеньня жорсткіх захадаў супраць тытуню абумоўленая вялікімі маштабамі распаўсюду шкоднай звычкі.

## Найлепшы футбаліст Беларусі

Паўабаронца лёнданскага "Арсэналу" і нацыянальнай зборнай Беларусі Аляксандар Глеб названы найлепшым футбалістам Беларусі—2005. Традыцыйнае апытаньне зладзіла найбуйнейшае спартовае выданьне краіны газэта "Прессбол" (www.pressball.by). Апытаньне праводзілася сярод спартовых журналістаў, футбольных спэцыялістаў, трэнераў, капітанаў клюбаў вышэйшай лігі, нацыянальнай і моладзевых зборных, а таксама арбітраў (усяго — 303 рэспандэнты).

24-гадовы А. Глеб набраў 671 бал, атрымаўшы 200 першых, 30 другіх, 11 трэціх месцаў. Аляксандар ужо заваёўваў гэты тытул ў 2002 і 2003 гадох.

2-е месца заняў паўабаронца "Крылаў Саветаў" Дзяніс Коўба (170 балаў), 3-е — форвард італійскай "Сампдорыі" Віталь Кутузаў (146 балаў), 4-е — паўабаронца маскоўскага "Дынама" Макс Рамашчанка (141 бал), галкіпер бухарэсцкага "Сьцяўа" і зборнай Беларусі Васіль Хамутоўскі — заняў 5-е месцы (122 балы). Усяго былі названыя 43 гульцы.

Апытаньне праводзілася ў 23-ці раз. Першымі ўладальнікамі тытулу, яшчэ за савецкім часам былі Сяргей Гоцманаў (1983, 1985, 1987, 1989) і Сяргей Алейнікаў (1984, 1986, 1988).

Летась найлепшым гульцом краіны стаў Максім Рамашчанка.

## Пэнсіі

Сярэдні памер налічанай месячнай пэнсіі ў кастрычніку ў Беларусі 210,7 тыс. рублёў (98 даляраў). Сярэдні памер пэнсіі па ўзросьце ў кастрычніку быў 221 тыс. рублёў ($103), у выпадку страты кармільца — 135,8 тыс. ($63), сацыяльнай пэнсіі — 71,1 тыс. ($38).

***Уласны карэспандэнт***

***Выкарыстана інфармацыя сайтаў, www.charter97.org, www.belapan.com, , газэтаў "Наша Ніва", Белорусы і рынок».***

***16 лістапада 2005 году ганароваму сябру Саюза беларускіх пісьменьнікаў, заснавальніку Згуртаваньня Беларусаў Канады Кастусю Акулу споўнілася 80 гадоў. Рэдакцыя газэты "Беларус" шчыра віншуе юбіляра і зычыць яму новых твораў і добрага здароўя.***



К. Акула

# Сэрцам зь Беларусяй

Лета ў Таронце звычайна доўжыцца ажно да лістапада, таму сонечныя верасьнёўскія дні, з рудым лісьцем на вуліцы, з шапаценьнем кашлатых платанаў над галавою і лёгкаю раніцьняю смугою над ракою Донам выглядаюць зусім летнімі. Мы зь пісьменьніцай Ірынай Варабей ідзём з самога прыпынку гулкага і чыстага трамвайчыка ўглыб па вуліцы Рыўэрдэйл да невялікага дамка, дзе жыве Кастусь Акула.

Гаспадар ужо на вуліцы, ён вядзе нас праз дом у садок – там высьпелі пасаджаныя вясною маліны.

Пунсовыя маліны буйныя, салодкія і без чарвякоў, галіны схіляюцца пад іхным цяжарам. Набраўшы поўную міску, сядаем за драўляны столік, які атуляе ад сонца яліна, і на якім варушацца жывыя сонечныя карункі.

І – пайшла гаворка! Пра сучасную беларускую літаратуру, пра вобразнасьць і крытычнасьць, пра лёс народу і яго ны занепад... Сонца даўно перасунулася з-за яліны, яно цікуе ўжо з-за суседзкай засені, шэра-дымныя вавёркі ганяюцца адна за адною па лужку, вяргіныні ля ганку млява хіляцца долу. Канадыйскае неба чыстае і трохі выцьвіла-сіняе, мы пачынаем чытаць вершы і, не гаворачы пра тое адзін аднаму, напаўняцу адчуваем вечную слодыч жыцьця і вольнай думкі...

Дзякую Лёсу за радасьць гэтага знаёмства, за магчымасьць час ад часу сустракацца з Кастусём Акулам у яго ную хаце, у беларускай царкве Сьв. К. Тураўскага.

Лёс любіць рабіць нечаканыя зігзагі, зьвязвае ў адно падзеі, пра якія іхныя ўдзельнікі часам не здагадваюцца. У нас са сп. Акулам аказаўся адзін агульны даўні знаёмы – нажаль, ён рана пайшоў з жыцьця.

Некалі даўні знаёмец Барыс Крэпак таямніча прывёў у маю менскую кватэру дацэнта з Кастрамы з італійскім прозьвішчам Гвідоні. Цэлы вечар мы слухалі яго ныя аповяды, якія маглі-б стаць сюжэтам для прыгодніцкага фільму: вальнадумец і савецкі дысыдэнт Аляксандар Гвідоні, нашчадак славутага італійскага роду, патрабаваў ад савецкіх уладаў магчымасьці зьяднацца зь сям'ёю.

Гісторыя яго нага каханьня да Галіны Румянцавай, выдатніцы й камсамолкі, якая зь цягам часу "перайшла на пазыцыі мужа" і разам зь ім распрацавала плян уцёкаў з СССР, запомніцца мне ўва ўсіх падрабязнасьцях: і як яна, завуч Палаца піянэраў, па турыстычнай пуцёўцы паехала ў Італію (Аляксандар быў невыяздны), там папрасіла палітычнага прытулку, і як улады пад пагрозаю звальненьня з працы патрабавалі ад яго вяртаньня жонкі і, здагадаўшыся аб змове, сачылі за кожным крокам так, як умеў гэта рабіць савецкі КГБ... Пасьля ўжо я даведалася, што яму пад ціскам міжнароднай супольнасьці нарэшце дазволілі выехаць разам з двума дзеткамі ці то ў ЗША, ці то ў Італію.

Аказалася, ён жыў у Таронта і стаў добрым сябрам Кастуся Акулы. Падараваную ім кнігу "Солнце идёт с Запада" я чытала праз 25 гадоў пасьля ейнага выданьня і наноў перажывала разам з гэтым цудоўным чалавекам яго нае жыцьцё і выпрабаваньні. Гэта быў голас як з майго мінулага, як з тае вечнасьці, куды так зарана пайшоў былы кастрамскі дысыдэнт, і я дасюль спадзяюся, што сп. Акула яшчэ напіша пра свайго сябра ўспаміны, якімі ён шчодра дзяліўся падчас нашых сустрэчаў.

Яму ёсьць што ўзгадаць і пра што яшчэ напісаць.

Іранічна-насьмешлівы і вясёла-гаваркі, рухавы і ўсё яшчэ магутны Кастусь Акула, ураджэнец Аляксандар Качан, сёньня самы яркі пісьменьнік беларускага замежжа і выдатны грамадзкі дзеяч Канады.

Але Ўсявышні, даючы пісьменьніку талент увекавечыць у Слове імкліва-няспынную плынь жыцьця, узамен сыпле свайму абраньніку поўныя прыгаршчы выпрабаваньняў.

Страта Радзімы на самым пачатку юнацтва, чужая зямля, якую абжываў у поце і няспыннай працы, у горычы стратаў і пошукаў, творчы імпульс, які магутна прабіўся і запатрабаваў усяе душы і сэрца – усё гэта ў выніку стварыла Пісьменьніка.

Унікальнасьць яго нае найперш у тым, што ўсе творы К. Акулы жывяцца сілаю роднай зямлі – далёкай і бліжняй, забранай і панявечанай. Што ўсе вобразы – адтуль, зь мясьцінаў Глыбоччыны, Меншчыны і дарог, па якіх з болем і неўтаймоўнай надзеяй неўзабаве ўсё-ж вярнуцца сыходзіў на Захад, у іншы сьвет і іншую долю, малады сьвядомы беларус.

Ён рана адчуў, што беларус, і што за гэта трэба змагацца.

"У нашай вёсцы было шмат дзяцей. Але з настаўніцай, якую прыслалі аднекуль з-пад Сандонежу, напачатку не пашанцавала. Яе мы называлі "ведзьмай". Думаю, што яна асабліва не любіла мяне, бо я ўжо з чацьвёртай клясы пытаўся, чаму гэта ва ўсёй гісторыі адныя палякі? Як называлася раней, яшчэ да перайменаваньня яе ў Саславіны (у гонар нейкага расейскага генэрала) наша Круляўшчына? І многае іншае, на што яна не хацела і не магла даць адказу. Нам было забаронена, нават між урокамі, гаварыць па-беларуску. Затое пятую клясу я скончыў з выдатнымі адзнакамі па ўсіх прадметах (апроч спорту). Які там спорт, калі я ўжо вазіў гной і дапамамоў бацьку па гаспадарцы?" (*З інтэрвію 20.03.03 г.*)

І праз шмат гадоў, спаткаўшыся зь земляком, яго ны герой Сымон Спарыш з рамана "Змагарныя дарогі" (у якім выразна бачыцца сам аўтар) сутыкаецца ўсё з тымі-ж пагардлівымі адносінамі да беларускай ідэі:

" – І разумна рабілі, што да палякаў ішлі. А што вы там нейкую Беларусь выдумалі... – плёў далей Красоўскі, - калі яна была тая Беларусь? Га?

- Як гэта Вы гаворыце, выдумалі? – узлаваўся Сымон. – А хто Вы, не беларус?

- Я ніколі хамам ня быў, - адрэзаў той.

- Ах ты сукін сын! – грымнуў Сымон і ледзь ня кінуўся на паліцая."

Пакаленьне Кастуся Акулы, народжанае ў 1920-я гады, паспытала ўсе трагічныя мітрэнгі ХХ-га стагодзьдзя, якія крывавым пажарам абрушыліся найбольш на Беларусь.

На радзіме ён пабачыў паланізацыю, пасьля не менш жорсткую русыфікацыю, а таксама сапраўднае аблічча чырвонай камуністычнай заразы, якая, як пошасьць, апанавала родную зямлю і зьнішчала адвечна-сялянскае, роднае, што было запавешчана ад прадзедаў. З гэтага ўнікальнага вопыту нарадзілася трылёгія "Гараватка" (1965-1981 г. г.), якую можна паставіць у адзін шэраг з такім клясычным творам, як мележаўскія "Людзі на балоце", з той агаворкаю, што Іван Мележ мусіў пісаць у рэчышчы савецкага рэалізму, у той час як Кастусь Акула ня быў абмежаваны гэтымі жорсткімі рамкамі і змог напоўніцу сказаць тую жорсткую праўду аб ахвярах і гвалце з народу, якую Мележ недагаварыў, і якая была наступствам камуністычнага таталітарызму з аднаго боку і захопніцкай расейскай палітыкі, што, зьнішчаючы мову, зьнішчала народную душу.

Напісаная яркаю, сакавітаю народнаю моваю, трылёгія ўзнаўляе час перад Другою сусьветнай вайною, затым, пасьля яе – стварэньне калгасаў і цэментаваньня савецкай сыстэмы ў Беларусі й, у прыватнасьці, на Глыбоччыне. Але адначасна паказвае яна і супрцціўленьне нялюдзкасьці праз вобразы простых людзей, узды маючы іх да трагедыйнай велічы Быцьця.

Ужо ў першай кнізе трылёгіі "Дзярлівая птушка" (Таронта, 1965 г.) па-мастацку дакладна перадае пісьменьнік рэаліі жыцьця беларускай вёскі пад польскаю ўладаю: вось парабак Янук Бахмач шчыра радуецца мізэрнаму заробку, які яму выдаюць як пастуху – жыцьцё яго нае толькі пачынаецца, маладая пругкая сіла бяжыць па жылах і дае адчуваньне радасьці навакольнага. Але непасільная праца згінае бацьку. За кошык малінаў у панскім лесе забіваюць яго ную матку. За тое, што сям'я ня можа неадкладна заплаціць мясцовому сьвятару два пуды жыта, той адмаўляецца ладзіць царкоўныя пахаваньні па нябожчыцы. У самы горкі для падлетка час, калі ён, як паклікань старым дубам-вешчуном, прыйшоў на ўзвышша, што называлася Гараваткаю, яму сустрэўся там дзед Якуб. І нібыта сама Гісторыя гаварыла голасам Якуба. Чаму і як сталася, што беларусу на яго най зямлі жыць не даюць, і што волю трэба здабываць – гэта хлопец пачуў упершыню, і воны яго ныя нібы расплюшчыліся.

У другой частцы трылёгіі "Закрываўленае сонца" (1974 г.) Янук Бахмач расьце і набірае сілы. Ён ведае – здабыць волю нельга без асьветы і бяз яснага разуменьня Будучыні, а да яе трэбы быць падрыхтаваным. Захопленая Польшаю Заходняя Беларусь адыйшла да СССР. Новая бязьлітасная сіла прыйшла з Усходу, ад яе дзеяньняў "панавалі немач і роспач. Сьціскаліся злосна зубы, бездапаможна ў малітвах да Бога сьціскаліся далоні. Блудзіў сялянскі зрок па пагвалчаных нівах, і млелі ногі ў чэргах перад дзяржаўнымі крамамі. Чужнік – рукамі "ваінствуюшчых бязбожнікаў" зачыніў сьвятыні, скідаў зь вежаў крыжы. Разбураліся адвечныя асновы. Што прыйдзе заўтра? – Ніхай хоць чорт прыходзіць, абы пірамена, абы лепі было жыць, - гаварылі ў роспачы людзі."

У трэцяй частцы трылёгіі, якая называецца "Беларусы, вас чакае зямля" (1981 г.) пісьменьнік паказвае рэаліі Другой сусьветнай вайны, калі ў Беларусь прыйшлі немцы. Зьвярыны твар фашызму, карныя апэрацыі супраць мірнага насельніцтва пісьменьнік малюе бязьлітасна і дакладна. Але разам з тым ён на поўны голас гаворыць аб патрыётах, аб той частцы беларускай інтэлігенцыі, якая ў гэты жудасны час змагла адкрыць па ўсёй Беларусі нацыянальныя школы, аднавіла набажэнствы ў храмах, дала дзецям праўдзівую гісторыю, якую замоўчвалі стагодзьдзямі.

Гэтая праўда аб вайне, яе, так-бы мовіць, адваротны бок усё яшчэ па-сапраўднаму не дасьледаваныя. Надаўна афіцыйна адноўленая "лінія Сталіна", але толькі высілкамі энтузіястаў аднаўляецца, ды і то па драбінках, гераічная, мужная праца беларускіх асьветнікаў-настаўнікаў, сьвятароў, ваяроў часоў вайны. Амаль невядомая праца беларускіх мэдыкаў, якія ў 1943-м годзе стварылі першы ў Беларусі сапраўды нацыянальны мэдыцынскі інстытут.

Кастусь Акула заканчвае раманную трылёгію двума сымбалямі: калі героі прымаюць рашэньне, што ім рабіць далей, "сонца чырвонай куляй садзілася за хрыбет лапавіцкага бору", а яны – Янук і яго ная жонка Дуня – "селі пры стале й схілілі перад іконамі галовы", разьвітваючыся з радзімай і просячы дапамогі ва Ўсявышняга. Гэтыя сымболі зьведзеныя ў адное не выпадкова, бо "з усходу далёцеў гул артылерыйскай кананады. На зруйнаваную і агаленую зямлю адтуль паўзла шматгаловая хімера."

"Чырвоная куля" прайшла праз сэрца беларуса, які змушаны быў пакінуць сваю любую зямлю, якая чакала свабоднага сейбіта і будаўніка, а дачакалася новых рэпрэсіяў і новай няволі.

Далейшы лёс аўтара і яго нага героя працягваліся на зямлі Канады. Кастусь Акула, добра разабраўшыся ў сутнасьці камунізму, з усяе моцы змагаўся з "чырвонай пошасьцю", якая пэўным часам знайшла сабе добрую глебу на яго най новай радзіме. І нездарма ў кастрычніку 1967-га году, у дзень Савецкага Саюзу на сусьветнай выставе ЭКСПО-67, адбыўся эпізод, пра які пісалі многія газэты. У той час, калі тысячы людзей сачылі за тым, як першы намесьнік Касыгіна Палянскі аглядае ганаровую варту, з боку прэсы раздаўся гучны вокліч "Няхай жыве незалежная Беларусь!", і зьверху паляцелі сотні брашураў. Гэта зрабіў Кастусь Акула, які ад імя беларусаў Канады пратэставаў супраць залежнасьці й дэнацыяналізацыі роднае краіны.

У гэты час ён ужо быў прызнаным пісьменьнікам, які друкаваўся ў многіх выданьнях, у тым ліку ў "Современнике", дзе ў палеміцы з расейскімі шавіністамі, часамі вельмі вострай, даводзіў праўду аб слаўнай гісторыі свайго народу і аб адметнасьці яго най мовы й культуры. Пісаў ён ня толькі на беларускай, расейскай,

але і на ангельскай мове, і ягоны раман "Tomorrow is Yesterday" (Заўтра – гэта ўчора) стаў, паводле канадыйскай прэсы, бэстсэлерам 1968-га году. Спадзяюся, неўзабаве ён прыйдзе ў Беларусь на беларускай мове (прынамсі, першыя главу̂кі раману перасылае мне па электроннай пошце нястомная Ірына Варабей, пісьменьніца і перакладчыца).

I сягоньня творы Кастуся Акулы, асабліва "Змагарныя дарогі" і трылёгія "Гараватка", чытаюцца зь цікавасьцю і як-бы на адным дыханьні. Магутная энэргетыка аўтара, ягонае валоданьне жывым, трапным словам, ягоны гумар і трагедыйнасьць, іронія і ўзьнёсласьць, патрыятызм і патас сплятаюцца ў адно жывое, трапяткое пачуцьцё, якое нікога не пакідае абыякавым.

Важнай вяхой у грамадзкім і пісьменьніцкім жыцьці Кастуся Акулы было шматгадовае выданьне часапісу беларускіх вэтэранаў "Зважай!". Яго і сёньня цікава чытаць і перачытваць: мноства зьвестак па гісторыі беларускай вайсковай справы, своеасаблівы летапіс духоўнага супраціву людзей, якіх лёс закінуў на далёкія берагі амэрыканскага кантынэнту, аналітычныя матар'ялы, водгукі на падзеі беларускага жыцьця за мяжою – усё гэта стварае калярытную карціну.

У верасьнёўскім нумары часапісу за 1988-ы год ёсьць падрабязнае апісаньне значнай культурнай і палітычнай падзеі – адкрыцьця на Ракавіцкіх могілках у Кракаве помніка Алесю Гаруну і фотакартка гэтага прыгожага, з чырвонага граніту, збудаваньня. Ініцыятарам усёй гэтай справы быў К. Акула – зь ягонага артыкулу пра занядбаную магілу песьняра, зьмешчанага ў часапісе яшчэ ў лістападзе 1985-га году, пачалося зьбіраньне сродкаў Камітэтам сувязі беларускіх вэтэранаў на чужыне. Значную суму ахвяраваў менавіта ён, нястомны ініцыятар мноства розных цікавых справаў, што рабіла Згуртаваньне Беларусаў Канады. Дарэчы, самую гэтую арганізацыю К. Акула і стварыў у 1948-м годзе, знайшоўшы і сабраўшы некалькіх аднадумцаў-беларусаў. А заснаваньне і выданьне газэты "Беларускі эмігрант", гарачыя спрэчкі і барацьба, якая разгарнулася вакол яе ў 1950-я гады!

Усё гэта толькі пункціры ягонай вялізарнай грамадзкай, асьветніцкай, культурніцкай, але перад усім мастацкай дзейнасьці.

Адыходзяць падзеі, якія некалі здаваліся самымі важнымі, імжа часу засыцілае твары і асобаў – але жывое, гарачае пачуцьцё любові, якое ўкладаецца ў мастацкі твор, застаецца жыць у дзесяцігодзьдзях і, залежна ад таленту, у стагодзьдзях ці ў Вечнасьці.

Пісьменьнік увaходзіць у сваё 80-годзьдзе. Лёс абышоўся зь ім літасьціва: ён урэшце рэшт увайшоў у кантэкст беларускай літаратуры, заняў у ёй сваё адметнае месца, стаў ганаровым сябрам Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. Няхай літаратура нашая перажывае зараз ня самыя лепшыя часы, аднак перавыданьне ў 1994-м годзе ягоных "Змагарных дарогаў", якія сталіся бэстсэлерам, цяперашняе перавыданьне іх да ягонага юбілею паказалі маштаб ягонага пісьменьніцкага таленту. Праўда, ня ў поўным аб'ёме: ёсьць вершы, эсэ, эпіграмы, нарысы, публіцыстыка, ёсьць раман "За волю" і кніга "Ўсякая ўсячына", дзе зьмешчаная камэдыя "Тараканы ў саладусе". Усё гэта друкавалася толькі ў Канадзе, а мусіла-б прыйсьці нарэшце і ў Беларусь ня ў выглядзе адзінкавых асобнікаў, а выдацца тут як поўны збор твораў.

...Я перачытала далёка ня ўсё, што друкаваў некалі гэты слынны пісьменьнік. Патрэбна грунтоўная дасьледчыцкая праца і з архівамі, і з часапісамі, і з газэтамі. Няма, па сутнасьці, аналізу дзейнасьці К. Акулы як выдаўца і заснавальніка газэты "Беларускі эмігрант" і часапіса "Зважай!" Па шматлікіх архівах раскіданыя ягоныя лісты да калегаў і дзеячоў Канады й ЗША. Копіяў, зразумела, няма – якая там была тэхніка ў пасьляваенныя гады!

I зноў прыходзіш да высновы – калі-б у нас быў Музэй эміграцыі, дзе зьбіраліся-б архівы дзеячоў культуры й літаратуры замежжа, і куды (гэта ці не галоўнае) ня страшна было-б аддаваць тыя архівы навучаным горкім вопытам забыцьця і гвалту нашым суродзічам! Дзе маглі-б працаваць дасьледчыкі, аднаўляючы ўсё зробленае нашай эміграцыяй.

А пакуль гэтага няма, будзем тут, у Беларусі, стварыць агульную прастору, дзе ёсьць нашая агульная любоў да Беларусі, нашае служэньне ёй, і дзе застанецца ўсё, хто змагаўся і пакутаваў, памятаў і спадзяваўся – у Еййнае імя. Хто аддаваў Ёй усяго сябе.

Як Кастусь Акула.

***Вольга ІПАТАВА***

# БУДОЎЛЯ Ў МЕНСКУ:

## нацыянальная бібліятэка якой краіны?

Улетку сёлета пачаўся пераезд Нацыянальнай Бібліятэкі Беларусі з гістарычнага будынку на вуліцы Чырвонармейскай у Менску, што ля прэзыдэнцкага палацу, у адмыслова збудаваны комплекс на ўскраіне сталіцы Беларусі, будоўлю якога асабіста курыраваў Лукашэнка. Каля васьмі мільёнаў кнігаў меліся зьмяніць дыслякацыю, і па найвышэйшым загадзе гэта мусіла адбыцца за некалькі месяцаў. Цяпер, па згадках у друку, пераезд прыпынены ў сувязі з патрэбаю будаваньня "памяшканьняў для прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь" у новай Бібліятэцы. Во дзе аматар кнігаў стаіць ля стырна нашай Беларусі!

Патрэба пашырэньня памяшканьняў Нацыянальнай Бібліятэкі насьпела даўно, але вырашыць яе было пастаноўлена ў 2002 годзе радыкальным чынам — праз поўнае перанясеньне Бібліятэкі з існуючага ад 1932 году месца. Дарэчы, гэта ня першае пераселеньне Бібліятэкі. Падчас нямецкай акупацыі фонды Бібліятэкі амаль цалкам былі перавезеныя нацыстамі ў сілезкі горад Рацібор (цяпер у Польшчы), дзе ствараўся вялікае сховішча кнігаў на славянскіх мовах. Пасьля вайны кнігі тагачаснай Дзяржаўнай Бібліятэкі Беларусі імя Леніна былі вернутыя зь Нямеччыны ў Менск, разам з "прыхопленымі" разам фондамі Бібліятэкі Пятлюры й Тургенеўскай бібліятэкі з Парыжу, Бібліятэкі Генса з Таліна ды інш. Аднак дакладна невядома, колькі кніг у Беларусь не вярнулася, або "абмінула" Беларусь і трапіла ў сховы Расеі ды іншых савецкіх рэспублік. Прынамсі, калекцыя старадрукаў ды інкунабулаў, у тым ліку выданьняў Ф. Скарыны, сёньня нашмат бяднейшая за даваенную.

Агульнапрызнана па ўсім сьвеце, што Нацыянальная Бібліятэка кожнай краіны ёсьць такі-ж атрыбут яе незалежнасьці, як герб, сьцяг, гімн, валюта і г. д. Фонд Нацыянальнай Бібліятэкі — такое-ж нацыянальнае багацьце кожнай краіны, як дзяржаўны скарб ці залаты запас. Нацыянальная Бібліятэка – гарантыя й неабходная ўмова культурнага і навуковага разьвіцьця, прагрэсу нацыі. Сёньняшні стан гэтага нацыянальнага атрыбуту ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь зусім не адпавядае назве і функцыям Нацыянальнай Бібліятэкі дзяржавы.

Сэрцам кожнай бібліятэкі, і тым болей нацыянальнай, ёсьць каталёг, ён мусіць быць сэрцам усёй бібліятэчнай сыстэмы, сэрцам усіх інфармацыйных рэсурсаў краіны. Электронны каталёг Нацыянальнай Бібліятэкі Беларусі складаўся ўжо пасьля 1991 году, але ён і сёньня вядзецца па-расейску і капіруе прынцыпы адпаведных каталёгаў Расейскай Фэдэрацыі. Бібліяграфічная служба дублюе адпаведныя службы ў расейскіх бібліятэках. Дзеж нашае, беларускае каталягаваньне, бібліяграфія? «Расея-матухна», як і раней, вытыркаецца з усіх шчылінаў. На інтэрнэт-сайце Нацыянальнай Бібліятэкі Беларусі толькі расейская і ангельская мовы, для выбару мовы — толькі 2 гузікі, "рус" і "анг". Па-беларуску —толькі кароценькія паведамленьні на расейскамоўнай старонцы, што трэба шукаць праз увесь сайт. Гледзячы на гэта ўсё, ствараецца ўражаньне, што трапіў на сайт нейкай абласной бібліятэкі Расеі.

Пасьля пераезду вырашана зьліквідаваць адмысловы Беларускі аддзел, які быў своеасаблівым "рэзэрватам" і асяродкам беларускасьці ў моры расейшчыны. Гэты аддзел існаваў ад самых пачаткаў Бібліятэкі, у ім працавалі й працуюць дасюль аддданыя беларускай культуры людзі. Варта ўзгадаць імёны Я. Сіманоўскага, Ю. Бібілы, М. Улашчыка, Н. Ватацы, Г. Алейнік, Т. Рошчынай, Л. Рабок, а таксама В. Лявончыкава, А. Мальдзіса, Г. Галенчанкі, А. Грыцкевіча ды іншых рыцараў беларускай кнігі. Ці патрэбны сапраўднай Нацыянальнай Бібліятэцы нацыянальны аддзел тытульнай нацыі — пра гэта можна весьці тэарэтычныя дыскусіі, але ў сёнешніх жахлівых умовах татальнага вынішчэньня беларускай нацыянальнай культуры за Беларускі аддзел у Нацыянальнай Бібліятэцы трэба змагацца, ня даць зьнішчыць. Бо цяпер, як і раней, ён жыцьцёва патрэбны.



Ня гледзячы на шалупіньне словаў Лукашэнкі й ягоных памагатых пра "інфармацыйныя рэсурсы", "высокія тэхналёгіі", "патрэбы грамадзтва ў галіне інфармаваньня", у Рэспубліцы Беларусь бібліятэкі апынуліся ў крызісным стане. Паўсюль – разбурэньне й заняпад. На інтэрнэт-сайце Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, на старонцы "У люстры статыстыкі" бачым: за 2000-2004 гады колькасьць публічных бібліятэкаў у краіне на 490 зьменшылася, дзіцячых бібліятэк памянела на шэсьць. Агульная штогадовая колькасьць выдачы кнігаў зьменшылася за гэты-ж час на 2 мільёны 915 тыс. асобнікаў. Колькасьць дарослых чытачоў зьменшылася на 172 тысячы чалавек. Дзіцячых чытачоў памянела на 97 тысяч чалавек. Па афіцыйнай статыстыцы руху бібліятэчных фондаў бачна, што кожны год фонды зьмяншаюцца больш чым на мільён(!) асобнікаў. Колькасьць бібліятэчных работнікаў за вышэйназваны пэрыяд скарацілася на 289 чалавек.

Тут можна запярэчыць, што ў век інтэрнэту патрэба ў бібліятэках зьмяншаецца. Але досьвед і статыстыка для разьвітых краінаў паказваюць, што кампутары й інтэрнэт толькі падвышаюць доступ да кнігаў, а самыя бібліятэкі робяцца асяродкамі кампутарызацыі й бясплатнага карыстаньня сеціваам. А гэта значыць — бібліятэкі робяцца больш запатрабаванымі. Пры тым са зьмяншэньнем колькасьці бібліятэкаў, чытачоў і бібліятэкараў у Беларусі не падвышаецца адпаведным чынам колькасьць электронных кнігаў, кампутараў у грамадзкім карыстаньні, і г. д. Наўрад ці будова шклобэтоннага комплексу на ўскрайку сталіцы можа вырашыць сур'ёзныя праблемы зь бібліятэчнаю справаю ва ўсёй краіне (ці "рэспубліцы", па тэрміналёгіі Лукашэнкі). Дарэчы, закрываюцца ня толькі бібліятэкі, але і музэі, "установы клюбнага тыпу" і г. д. Сфэра культуры відавочна ня ёсьць прыярытэтам для Лукашэнкі, а сфэра беларускай нацыянальнай культуры для гэтай асобы нагул не існуе.

За гучнымі фразамі аб "фармаваньні ўнівэрсальных інфармацыйных рэсурсаў", "забесьпячэньні доступу да аналітычных дадзеных" і г. д. хаваецца нешта іншае. Першае: бібліятэка ў новым будынку — трыюмф так званай "палітыкі прэзыдэнта ў галіне нацыянальнай культуры", кляп у рот усім крытыкам. А заадно цудоўны кавалак прапаганды для надыходзячай прэзыдэнцкай кампаніі. Другое — вызваленыя забудовы й тэрыторыя будуць скарыстаныя дзеля пашырэньня комплексу прэзыдэнцкіх будынкаў і ўзмацненьня "бясьпекі Лукашэнкі". Падобным чынам у 1998 годзе з Драздоў пад Менскам гвалтоўна, з парушэньнем Венскай ды іншых канвэнцыяў, выдаліліі замежных дыпламатаў. У вызваленых памяшканьні засяліліся целахоўнікі Лукашэнкі ды іншая абслуга.

Між тым абшар каля Бібліятэкі на вуліцы Чырванармейскай мае дастаткова магчымасьцяў збудаваньня дадатковых вялікіх сховішчаў, шматпавярховых будынкаў. Ля Бібліятэкі месьціцца вялікая незабудаваная пляцоўка, абнесеная плотам. За плотам — выхад з былога бамбасховішча ЦК КПБ. Бамбіць Менск цяпер няма каму, нават Лукашэнка выдатна ведае гэта. І тая пляцоўка за плотам стала-б выдатнай будаўнічай пляцоўкай новай Нацыянальнай Бібліятэкі.

Вынясеньне Нацыянальнай Бібліятэкі на мяжу гораду, сталіцы краіны, ёсьць акт сымбалічны — гэта выцісканьне на маргінэс набыткаў нацыянальнай культуры. У будынку на вуліцы Чырванармейскай, помніку канструктывізму (архітэктар Г. Лаўроў) Бібліятэка месьціцца з 1932 году. Тагачасная Бібліятэка Леніна дэ-факта была Нацыянальнай бібліятэкай нават да Незалежнасьці. Так уважаў кожны неабыякавы беларус бібліятэку, дзе захоўваліся набыткі культуры ягонага народу, куды былі перададзеныя прыватныя зборы Карскага, Эпімах-Шыпілы, Сапунова, Пічэты, Янчука, дзе зьберагаліся кнігі Бібліі Скарыны й першыя творы Дуніна-Марцінкевіча, Сыракомлі, Чачота, Багушэвіча, Купалы, Коласа, Багдановіча. Аднак, нажаль, нацыянальны характар Бібліятэкі — заўсёды пад уціскам. Так было падчас зьнішчэньня беларусізацыі ў 1930-я, так ёсьць сёньня.

Сёньня справа Нацыянальнай Бібліятэкі павінна прыцягнуць увагу нацыянальных беларускіх сілаў. Змаганьне за сапраўды Нацыянальную Беларускую Бібліятэку ёсьць, поруч са змаганьнем за незалежнасьць і свабоду, годнай і вартай мэтай для беларускіх людзей.

***Віталь ЗАЙКА***

# Дзеячы беларускай эміграцыі

## Успамін пра Вацлава ПАПУЦЭВІЧА

Ня вельмі сьпякотны ліпень 2005 году. Недалёка, усяго некалькі кілямэтраў на поўнач, высяцца гмахі заводаў і спальных раёнаў Горадні, але тут, у Малой Альшанцы, усё выглядае яшчэ па-вясковаму, больш-меньш так, як дзявяноста зь нечым гадоў таму, калі ў сям'і беларусаў-каталікоў Язэпа й Аляксандры нарадзіўся хлопчык, якому далі імя Вацусь.

Сёньня ў Малой Альшанцы застаўся толькі адзін чалавек, які асабіста ведаў і помніць Вацлава Папуцэвіча - гэта ягоная пляменьніца Гертруда Буйка. Але нямала можа распавесьці пра свайго дзядзьку і Эдвард Папуцэвіч, да якога, яшчэ як да школьніка, дзядзька Вацлаў пісаў ў далёкіх 1950-х гг. Думаю, што іхныя ўспаміны пра маладыя гады выдатнага беларускага грамадзкага й рэлігійнага дзеяча, гісторыка і аднаго з заснавальнікаў беларускага скаўтынгу Вацлава Папуцэвіча вартыя надрукаваньня.

Успамінаюць Гертруда Буйка і Эдвард Папуцэвіч:



Вёска Малая Альшанка ўзьнікла недзе ў XVIII-м стагодзьдзі, калі ранейшую Альшанку спалілі швэды, і жыхары вёскі разьбегліся ў розныя бакі, заснаваўшы адразу дзьве новыя Альшанкі, Вялікую і Малую. У пачатку XX ст. жыхары Малой Альшанкі былі напалову праваслаўныя, напалову каталікі. Тое самае было й з Папуцэвічамі. У 1926-м годзе праваслаўны Міхась Папуцэвіч узначальваў альшанскі гурток Беларускае Сялянска-Рабочае Грамады, але Папуцэвічы-каталікі, зь якіх паходзіў Вацлаў, вылучаліся моцнай польскай нацыянальнай сьвядомасьцю пад уплывам каталіцкага касьцёлу. Вацлаў быў малодшым з чатырох сыноў Папуцэвічаў (была яшчэ дачка, якая памерла ва ўзросьце 14-ці гадоў). Старэйшых братоў звалі Станіслаў, Эдвард і Казімір. Калі пачалася Першая сусьветная вайна, Папуцэвічы засталіся ў вёсцы, а большасьць праваслаўных жыхароў выехалі ў бежанства, адкуль вярнулаіся толькі праз 7-8 гадоў. У пачатку 1920-х гг., калі на Гарадзеншчыне ўжо ўсталявалася ўлада палякаў, Вацлаў, адзіны з усёй вёскі, скончыў польскую пачатковую школку ў Капцёўцы й паступіў у сэмінарыю (гледзячы па ўсім - настаўніцкую сэмінарыю ў Горадні, але вядома, што навучаўся і ў гімназіі Жыгімонта Аўгуста ў Вільні).

Самы старэйшы брат Станіслаў, разам зь якім жылі бацькі, узяў на сябе справу навучаньня Вацлава. Іхны бацька Язэп меў нямала зямлі – блізу 16 гэктараў, але калі падзяліў яе на чатыры часткі для ўсіх сыноў, то ім ужо прыходзілася няпроста. Станіслаў апрацоўваў надзел Вацлава (атрымлівалася ўжо 8 гэктараў), трымаў каля 40 вульляў з пчоламі, будаваў хаты й большую частку зробленых залатовак аддаваў, няглядзячы на нараканьні жонкі, на адукацыю малодшага брата. Усе разьлічвалі, што Вацлаў стане каталіцкім ксяндзом. Ён нават прыслужваў пад час вучобы ў Горадні ў францішканскім касьцёле. Пасьля пачаў навучаньне на тэалягічным факультэце ўнівэрсытэту Стэфана Баторага ў Вільні. Станіслаў ужо нават пасьпеў купіць яму тканіны на сутану. Але з Вацлавам пачало рабіцца нешта дзіўнае, пачаў прывозіць маліто ўнікі і розную іншую літаратуру, напісаную па-беларуску, што выклікала вялікую незадаволенасьць бацькоў і брата, якія, тым ня менш, працягвалі падтрымоўваць Вацлава. Нарэшце, у адзін з сваіх прыездаў на вёску Вацлаў заявіў, што ксяндзом ня будзе, бо ня мае пакліканьня. Хутчэй за ўсё, ён па-просту не захацеў тлумачыць сваім родным, што яго зьбіраліся выключаць з унівэрсытэту за беларускую дзейнасьць. Таму сярод сваякоў дасюль бытуе думка, што Вацлаў Папуцэвіч кінуў тэалёгію, бо знайшоў сабе дзеўку.

Пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР В. Папуцэвіч працаваў у Горадні ў школе на вуліцы Замкавай. Пляменьніца Гертруда, адвучыўшыся пяць клясаў у польскай школе ў Гібулічах, у 1939-40-м навучальным годзе вучылася ў беларускай школе ў Горадні й жыла ў свайго дзядзькі на вул. Паўночнай. Успамінае яго як надзвычай добрага й прыгожага чалавека, які ніколі не забываў сваіх родных.

З часоў вайны родныя ўспамінаюць толькі, што Вацлаў Папуцэвіч жыў у Баранавічах, дзе ў яго нарадзіўся і хутка памёр сынок.

У 1944-м годзе, пасьля прыходу Чырвонай Арміі, на В. Папуцэвіча як на аднаго з арганізатараў Беларускага Камітэту ў Горадні летам 1941-га году, у Малой Альшанцы некалькі разоў ладзіліся аблавы. Салдаты з НКВД, думаючы, што той хаваецца недзе непадалёку, акружалі вёску, хадзілі па хатах.

Сувязь з роднымі Вацлаў Папуцэвіч наваязаў адно ў 1950-х гг. з Чыкага. Пісаў, расказваў аб сваім жыцьці і заўсёды слаў вялікія пачкі, каб хоць неяк падтрымаць іх, выцягнуць з галечы. Лісты гэтыя дасюль захаваліся ў Эдварда Папуцэвіча, які, даведаўшыся ад аўтара гэтага артыкулу, што дзядзькі вось ужо 14 гадоў няма сярод жывых, вельмі хоча адшукаць сваю стрыечную сястру Аліцыю, дачку В. Папуцэвіча, і аднавіць зь ёю перапіску.

Спадзяемся, што паядналне сваякоў выдатнага беларуса на Бацькаўшчыне і па-за яе межамі будзе найлепшай данінай ягонай памяці.

***Андрэй ВАШКЕВІЧ***

## Радаслаў і Віктар АСТРОЎСКІЯ – хто яны?

У часапісе "Запісы БІНіМ" № 28 за 2005 год на старонках 170-171 я знайшоў цікавыя зацемкі пра Радаслава Астроўскага і ягонага сына Віктара Астроўскага дзе напісана: "На палітычныя перакананьні прэзыдэнта БЦР уплывала і тое, што ён быў паводле нараджэньня рыма-каталіком, і гэта адрозьнівала яго ад праваслаўных дзеячоў, якія з падазрэньнем ставіліся да каталікоў, бо лічылі іх за польскіх агентаў. Такім чынам Радаслаў Астроўскі мог цудоўна ўжывацца як зь беларускімі дзеячамі-ўсходнікамі (падчас нямецкай акупацыі ён працаваў у Смаленску, Бранску, Магілёве), так і з "заходнікамі" – калегамі па заходнебеларускім руху 1920-30-х гг. Нямногія палітыкі маглі пахваліцца такой падтрымкай."

Але-ж Радаслаў Астроўскі вядомы быў у Беларусі і на эміграцыі як праваслаўны. Ён ня ўпаў зь неба. Яго многа хто ведаў, калі ён быў малады, калі вучыўся ў школе, пасьля ў гімназіі й унівэрсытэце. Няўжо вогныя аднаклясьнікі й сябры ня ведалі якой ён веры? Астроўскі мог паходзіць з каталіцкай сям'і, але каталіком ня мог быць. Ды з боку Астроўскага было-б непаважна, калі ён у сапраўднасьці быў каталіком, а выдаваў сябе за праваслаўнага. Усё-ж, мне здаецца, што некаторыя блізкія сябры Астроўскага на Случчыне ведалі якой ён веры, і каб быў каталіком, то выявілі-б гэта.

Цікавае тое, што сын Віктар Астроўскі, знаходзячыся ў Лёндане, напісаў брашуру супраць вуніятаў-каталікоў на беларускай мове, дзе на вокладцы быў напісаны па-польску адзін сказ: "Убрал сен д'ябэл в комжэн і оргонэм на мшэн дзвоні". Цяжка паверыць, што нешта падобнае мог напісаць сапраўдны каталік.

Усё-ж калі-б Р. Астроўскі нават і быў каталіком, то я ня думаю, што беларусы маглі-б зьмяніць свае погляды на ягоную палітычную дзейнасьць у часе апошняй вайны. Сярод беларусаў было нямала каталікоў. Сярод беларусаў было нямала каталікоў, якія паказвалі сябе сапраўднымі патрыётамі, як Ф. Багушэвіч, Янка Купала, ксяндзы А. Станкевіч і В. Гадлеўскі. Такіх людзей паважалі і праваслаўныя патрыёты. То чаму меў маскавацца, хавацца са сваёй верай Астроўскі?

На старонцы 171 "Запісаў" чытаем: "... ягоны сын Віктар быў афіцэрам корпуса генэрала Ўладыслава Андэрса і на баку саюзьнікаў удзельнічаў у штурме Монтэ-Касіна ў траўні 1944 году."

Пасьля вайны Астроўскія жылі ў Лёндане, і праз некаторы час я быў зь імі ў блізкіх зносінах. Але мне не выпадала распытваць пра іхнае прыватнае жыцьцё. Аднак добра вядома, што перад вайною Астроўскія жылі ў Вільні. Бацька быў дырэктарам Беларускай гімназіі, але перад вайною палякі перавялі яго ў Лодзь, дзе вучыўся ён у польскай гімназіі, а сын Віктар, як я не мыляюся, вучыўся ў Торуні на агранома. Маці Віктара жыла ў Вільні.

Вайна Нямеччыны з Польшчай у верасьні 1939 году патапіла Польшчу. Бацька з сынам апынуліся пад нямецкай акупацыяй, а маці пад савецкай. Віктар вырашыў наведаць маці ў Вільні. Ён удала перайшоў нямецка-савецкую мяжу, але потым нехта данёс міліцыі. Яго арыштавалі й пасадзілі ў турму за нелегальны пераход мяжы.

Віктар расказаў мне, як ён сядзеў у турме зь іншымі беларусамі. Калі аднойчы выклікалі вязьняў, то той чалавек, які назваў прозьвішча Віктара, вучыўся раней ў Беларускай гімназіі ў Вільні, аднак перайшоў мяжу ў Савецкую Беларусь і быў памежнікам. Ён пазнаў Віктара і запытаў; "Ці памятаеш мяне?" Віктар адказаў: "Не!"

Калі ў часе вайны ў СССР пачала арганізоўвацца Польская армія, то туды ўступіў і Віктар Астроўскі.

Цяпер у мяне паўстае пытаньне: ці мог быць Віктар Астроўскі афіцэрам польскага войска? Я ня чуў, каб перад вайной ён служыў у войску, а ў часе вайны не чувадь было, каб у польскім войску была школа падхарунжых, кандыдатаў у афіцэры. Такая школа была адчыненая пасьля вайны ў Італіі. То якія цудам мог Віктар быць афіцэрам польскага войска? Таксама малая верагоднасьць таго, што быў ён падафіцэрам.

Калі ёсьць сумнівы адносна некаторых людзей або падзеяў, іх трэба правяраць дзеля захаваньня гістарычнай праўды, каб такімі памылкамі не карыстаўся нехта другі ў будучыні.

***Юры ВЕСЯЛКОЎСКІ***

## Кніга пра гісторыю БАЗА

Скончылася праца над рукапісам кнігі "Будаваньне Беларускае Цывілізацыі: Пяцьдзесят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949-1999): Падзеі. Дакумэнты. Пэрсаналіі. Успаміны".

Пачаткова меркавалася, што кніга будзе мець невялікі аб'ём і выйдзе да 50-х угодкаў Задзіночаньня. Аднак з розных аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынаў праца над кнігаю зацягнулася. Праўда, за гады працы аб'ём кнігі вырас – у параўнаньні зь меркаваным – у некалькі разоў.

Асобныя разьдзелы кнігі друкаваліся ў "Беларусе" цягам мінулага й гэтага гадоў. Аўтар выказвае ўдзячнасьць др. Язэпу Сажычу, які адгукнуўся на разьдзел, прысьвечаны гісторыі Дэтройцкага Аддзелу, з канструктыўнаю крытыкай ды істотнымі дапаўненьнямі і ўдакладненьнямі.

Гэтая кніга – трэці том у сэрыі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва "Гісторыя эміграцыі". "Цьвёрдая копія" рукапісу адасланая дырэктару БІНіМу др. Вітаўту Кіпелю. Сябры рэдкалегіі кнігі атрымалі электронную вэрсію рукапісу.

Для вэрыфікацыі біяграфічнага матар'ялу аўтар дасылаў лісты тым базаўцам, якім плянавалася прысьвяціць асобныя біяграмы ў частцы "Пэрсаналіі". Некаторыя асобы тут жа адгукнуліся на просьбу й даслалі падрабязныя адказы. Асабліва хацелася б падзякаваць др. Уладзімеру Набагезу, які даслаў вычарпальную інфармацыю. Аднак, на жаль, далёка ня ўсе базаўцы адгукнуліся на лісты аўтара з падобнымі просьбамі. Таксама аўтар дзякуе сп. Васілю Шчэцьку за ўважлівае выпраўленьне мэмуарнага матар'ялу, уключанага ў частку "Успаміны".

Аўтар выказвае надзею на тое, што героі кнігі выкажуць большую актыўнасьць і зацікаўленасьць у выніках працы. Таксама аўтар спадзяецца атрымаць фатаздымкі, якія маглі б адлюстроўваць найбольш цікавыя падзеі з гісторыі БАЗА ды з жыцьця базаўцаў (пазычанае будзе абавязкова вернутае). Кніга пра БАЗА – нашае агульнае выданьне.

***Зьміцер САЎКА, z_sauka@yahoo.com***




# Весткі й Паведамленьні

ньюёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №12 (479)


# Лістападаўскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

У грамадзкім памяшканьні пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне 13 лістапада адбыўся чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку сходу старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка прачытаў рэфэрат, прысьвечаны Дню Герояў і 85-м угодкам Слуцкага Збройнага Чыну. Прамоўца падкрэсьліў, што змаганьне случчакоў стала першым ад часоў Кастуся Каліноўскага арганізаваным масавым выступам беларускіх людзей са зброяй у руках супраць захопнікаў з усходу. Гераізм случчакоў стаў школаю патрыятызму для наступных пакаленьняў беларусаў, ён выявіў прагу волі й незалежнасьці беларускага народу.

Затым са словам да ўдзельнікаў сходу зьвярнуўся Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён падкрэсьліў важнасьць шанаваньня памяці змагароў за вольную Беларусь, важнасьць вывучэньня падзеяў нашага мінулага дзеля збудаваньня вольнай будучыні.

Пасьля гэтага сп. Пазьняк спыніўся на падзеях сёнешняга дня, згадаў паведамленьні пра тое, што яму быццам адмоўлена балятавацца на пасаду прэзыдэнта Беларусі. "Гэта адбываецца яшчэ за год да пачатку выбараў, да стварэньня выбарчых камісіяў і г. д. Гэта ёсьць ня што іншае як мэтанакіраваная правакацыя". Прамоўца зрабіў агляд падзеяў апошняга часу ў Беларусі й вакол яе, прааналізаваў новыя тэндэнцыі палітычнага жыцьця на Бацькаўшчыне. "Мы толькі выйшлі з савецкага рабства, толькі паднялі галаву — і потым зноў трапілі ў новае рабства. Але змаганьне абавязкова павінна працягвацца. Дзеяньнямі тысяч, а потым соцень тысяч і мільёнаў людзей было разьбітае савецкае рабства. Такімі-ж дзеяньнямі будзе разьбітае і рабства, накінутае рэжымам Лукашэнкі. Толькі калі верыш у праўду, верыш у ідэю — тады пераможаш."

Затым у разьдзеле "Рознае" са зваротамі да прысутных, з аб'явамі й паведамленьнямі выступілі сп.сп. Барыс Данілюк, Валеры Дворнік, Мікола Сагановіч, Ул. Юры (Рыжы). Прысутныя пры каве і пачастунках працягвалі калегавацца пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі сходу.

Сярод прадстаўнікоў маладога пакаленьня была распаўсюджаная анкета адносна патрэбы стварэньня маладзёвай арганізацыі пры БАЗА.

**Віталь ЗАЙКА**

# Мастакі-беларусы ці мастакі зь Беларусі

Неяк усё прыйшлося адно да аднаго: надрукаваная ў верасьнёўскім нумары нашае газэты інфармацыя пра захапляльна-неверагодны ў сваёй дзёрзкасьці пачын – складаньне энцыкляпэдыі беларускае дыяспары; спэктакль віцебскага тэатру «Шагал, Шагал»; атрыманы ў падарунак альбомчык "Беларускія мастакі ў замежжы" ўкладаньня Яна Запрудніка.

Відавочна: альбом на 53 бачынкі ня мог зьмясьціць нават усіх «тутэйшых» мастакоў (да прыкладу, няма Янкі Юхнаўца), што ўжо казаць пра такіх сусьветна вядомых, як Марк Шагал!

І вось тады падумалася: ці патрапіць імя гэтага мастака ў будучаю энцыкляпэдыю? Пытаньне прынцыповае, бо Шагал мо і найбольш знаны з тых, хто паходжаньнем сваім лучыцца зь Беларусьсю, але не адзіны. Вунь колькі яшчэ іменаў – так-бы мовіць, мае прапановы аўтарам энцыкляпэдыі.

***Навум Арансон*** (1873, Крэслаўка Віцебскай губ., сёньня Краслава, Латвія – 1943, Нью Ёрк) – студыяваў у Вільні, пазьней у Парыжы. Меў выставы ў Лёндане, Бэрліне, Парыжы (Залаты мэдаль, 1902). У 1940 г. выехаў з акупаванай Францыі ў Партугалію, у ЗША з 1941 г.

***Леў Бакст*** (1866, Горадня – 1924, Парыж). Ягоная біяграма бадай у кожнай энцыкляпэдыі ёсьць.

***Раман Вярхоўскі*** (1881, Менск – 1968, Лёнг-Айленд, ЗША). Скульптар, архітэктар. Удзельнік Першай Сусьветнай й грамадзянскай войнаў. У 1920 г. эміграваў у Белград. Аўтар «Помніка Рускай славе» (1935), прысьвечанага палеглым на Балканах. З 1937 г. у ЗША.

***Робэрт Генін*** (1884, в. Высокае Клімавіцкага ўезду Магілёўскай губ. – 1943, Масква). Вандраваў і выстаўляўся па цэлым сьвеце, каб прыехаць у 1936 г. ў сталіцу СССР і скончыць жыцьцё самагубствам ва ўласнай майстэрні.

***Мікалай Глінскі*** (1901, Менск – 1999, Саратаў). Сцэнограф, мастак, графік. У 1922 эміграваў у Баўгарыю. У 1929 г. быў сярод заснавальнікаў Таварыства рускіх мастакоў Баўгарыі. У 1957 г. вярнуўся ў СССР. Цікава, ці добрая воля прывяла яго ў Саратаў, ці не спатыкаўся ён там з Язэпам Дылам?

***Тамара Ельчанінава***, народжаная Левандоўская (1897, Менск – 1981, Парыж). Іканапісец. У 1921 г. эмігравала ў Канстантынопаль, потым у Францыю, дзе муж стаў сьвятаром. Ейныя іконы, крыжы – у Камэруне, Сан-Францыска, Парыжы.

***Міхал Кікоін*** (1892, Разіттэн Віцебскай губ., сёньня Рэзэкнэ, Латвія – 1968, Парыж). Вучыўся ў славутай мастацкай школе Я. Кругера ў Менску, у Віленскім мастацкай вучэльні. З 1912 – у Парыжы, на Манпарнасе – да канца жыцьця. Не пералічыць усіх салёнаў ды галерэяў, дзе адбываліся ягоныя выставы.

***Павал Крэмень*** (1890, Жалудок Віленскай губ., сёньня Гарадзенская вобл. – 1981, Францыя). Студыяваў у Віленскай мастацкай вучэльні разам з Х. Суціным і М. Кікоіным. У 1912 г. нелегальна празь Нямеччыну перайшоў у Парыж. Сёньня можна сьцьвердзіць: яму спрыяў посьпех і прызнаньне.

***Надзея Лежэ***, народжаная Хадасевіч (1904, в. Асецічы Віцебскай губ. – 1982, Францыя). У Менску была калісь выдадзеная (што праўда, па-расейску) ейная кніга пра мужа-мастака. Вядомая мастачка.

***Хаім-Якаб Ліпшыц*** (1891 Друскенікі Гарадзенскай губ, сёньня Летува – 1973 Італія).

***Оскар Мешчанінаў*** (1886, Віцебск – 1956, Лёс Анжэлес).

***Антон Пеўзьнер*** 1884, в. Клімавічы Магілёўскай губ. – 1962, Парыж). Працаваў у Наркампросе – выкладаў у ВХУТЕМАС – напісаў першы маніфэст канструктывізму «Рэалістычны маніфэст». Нішто сабе біяграфія!

***Савелі Сорын*** (1878, Полацак – 1953, Нью Ёрк). Вучань І. Рэпіна.

***Дзьмітры Стэлецкі*** (1875, Брэст-Літоўск – 1947, Францыя). Працаваў для Марыінскага тэатру, для С. Дзягілева.

***Хаім Суцін*** (1893, Сьмілавічы Менскай губ. – 1943, Парыж). Ягоная вядомасьць не нашмат саступае Шагалавай.



Хаім Суцін

***Аляксандра Экстэр***, народжаная Грыгаровіч (1882, Беласток – 1949, Парыж). Дарэшы, пытаньне: тут Беласток - яшчэ Беларусь ці ўжо Польшча?

Вось такая невялічкая купка іменаў, што адразу прыйшла ў галаву. Насамрэч іх болей, значна болей. І хоць бянтэжыць іхная прыналежнасьць да расейскай культуры, але-ж і Шагал з Малевічам таксама належаці да яе.

**Навум ГАЛЯШЭВІЧ**

## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:
### Ахвяраваньні й складкі:

| | |
|---|---|
| В. Валашчук ........30 | А. Пугачоў ........30 |
| М. Віхраў ........30 | К. Целяжэнка ........30 |
| В. Кіеня ........30 | С. Шчэрбацэвіч ........30 |
| В. Мароз ........30 | Н. Талкачова ........10 |
| П. Паныш ........30 | Шчыры дзякуй! |

## Наступны сход

ньюёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **8 студзеня 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне па адрасу:

**401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217**

Пачатак апаўдні пасьля Літургіі ў Саборы. Запрашаюцца ўсе, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі.

Даезд цягнікамі падземкі **A, C** да станцыі **Hoyt-Shermerhorn Street**, або падземкі **F** да станцыі **Bergen Street**.

**Уплаты дасылайце на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.***

# Маладзёвая

Пішыце нам на адрас: moladz_bielarus@tut.by

**Цытата нумару:** "Ня кожны чалавек можа нешта зьмяніць, але спрабаваць павінен кожны."
*Дж. Ф. КЕННЭДЗІ*

# Амэрыканскія студэнты за свабодную Беларусь



Маладая студэнцкая арганізацыя "Студэнты за Глябальную Дэмакратыю" (***Students for Global Democracy***) аб'ядноўвае студэнтаў, якія намагаюцца дапамагчы беларускаму народу ў ягоных змаганьнях за дэмакратыю. Ідэя стварэньня гэтай арганізацыі прыйшла першакурсьніку Індыянскага ўнівэрсытэту Чарлі Шрому два гады таму. З таго часу ён зьяўляецца прэзыдэнтам СГД. Як ён сам гаворыць, яшчэ ў сьнежні 2003 году "Студэнты за Глябальную Дэмакратыю" складалася толькі з маніфэсту, які ён расклеіў па ўсім унівэрсытэце ў спадзяваньні знайсьці аднадумцаў. І адгукнуліся ініцыятыўныя студэнты, якія выказалі жаданьне далучыцца да арганізацыі.

**(Карэспандэнт:)** "Чарлі, ты пасьпяховы амэрыканскі студэнт. Большасьць тваіх аднагодкаў і не задумваецца над праблемамі іншых краінаў. Як сталася, што ты вырашыў узваліць на сябе цяжар грамадзкай справы, узначаліўшы СГД, каб зьмяніць сытуацыю ў Беларусі?"

**(Ч. Шром:)** "Я згодны з тваёю ацэнкаю многіх амэрыканскіх студэнтаў. Апатыя – гэта сур'ёзны выклік. Менавіта яе найскладаней пераадолець тым, хто хоча перайначыць сьвет. Што тычыцца мяне, я зацікавіўся барацьбою за незалежнасьць ва ўсім сьвеце пасьля таго, як у школе на канфэрэнцыі я рэпрэзэнтаваў Іран. Дэманстрацыі іранскага народу выклікалі ў мяне спачуваньне. Хутка мая ўвага перанеслася і на іншыя краіны. Я зразумеў, што як амэрыканец, я маю мноства палітычных свабодаў, якімі людзі ў іншых краінах ня могуць карыстацца. У мяне польскія карані, і я вучыўся ў Польшчы. На маю думку, гэтая краіна найбольш сфакусаваная на ўсталяваньне дэмакратыі ў Беларусі. Я ўбачыў, што палякі заваявалі сваю незалежнасьць толькі 15 год таму. Чаму беларусы павінны жыць пры дыктатарскім рэжыме, калі ўкраінцы, грузіны й сэрбы заваявалі свабоду? Мы накіравалі дзейнасьць СГД на зьмену сытуацыі ў Беларусі і працуем дзеля гэтага."

Праз два гады руплівай працы СГД пертварылася зь мясцовай ініцыятывы ў арганізацыю, якая аб'ядноўвае студэнтаў са ўсяго сьвету. Яе прадстаўляюць студэнты Кеніі, Тайваня, Турцыі, Канады, Нідэрляндаў, Баўгарыі ды іншых краінаў. Сп. Шром сам зьдзіўляецца таму глябальнаму маштабу дзеяньня арганізацыі. Кампаніі "Студэнтаў за Глябальную Дэмакратыю" ахопліваюць розныя краіны. Праводзіліся акцыі ў падтрымку Правоў чалавека ў Паўночнай Карэі, зьбіраліся подпісы пад Дэмакратычнай Пэтыцыяй да ўраду Бірмы, у падтрымку выбараў у Іраку і моладзевага руху ў Азэрбайджане. У 2004 годзе СГД актыўна падтрымлівала "аранжавую рэвалюцыю" ва Ўкраіне.

**(Ч. Шром:)** "Я памятаю тыповы халодны зімовы дзень у Чыкага, наступны дзень пасьля Калядаў, калі ўкраінцы галасавалі ў сваім консуляце. Мы сталі насупраць. Здаецца, кожны, хто галасаваў у той дзень, рабіў нашыя здымкі з плякатамі, якія заклікалі да дэмакратыі ва Ўкраіне. Упэўнены, што мы трапілі ў шэраг сямейных альбомаў."

Зараз СГД пільна сочыць за сытуацыяй у Беларусі. У красавіку сёлета група студэнтаў з унівэрсытэту Берклі, Каліфорнія, арганізавалі Марш за падтрымку дэмакратыі. У выніку нашыя актывісты назьбіралі сродкі, каб перадаць іх моладзёваму руху "Зубр". Неабходна прыгадаць, што ў Бэркліі Блумінгтоне, Індыяна, СГД мае шмат прыхільнікаў. Там ладзіцца мноства акцыяў у падтрымку дэмакратыі ў Беларусі. Так, 15 кастрычніка быў праведзены Сусьветны Марш у Падтрымку Дэмакратыі ў Беларусі. Студэнты прайшлі 12 км, якія сымбалізавалі дванаццаць гадоў дыктатарскага рэжыму. Сябры СГД засталіся задаволеныя гэтай кампаніяй, якая праводзілася таксама прадстаўніцтвамі арганізацыі ў Вялікабрытаніі й Турцыі.

**(Ч. Шром:)** "Мы атрымалі добрую інфармацыйную падтрымку ў незалежных беларускіх мэдыях. Гэтая акцыя ладзілася за дзень да таго, як распачалася кампанія салідарнасьці беларускай грамадзкасьці 16-га дня кожнага месяца. Мы будзе працаваць у гэтым рэчышчы, каб дапамагчы народу Беларусі."

Я зьвярнуўся таксама да сп. Джона Крока, каардынатара СГД па справам Беларусі. Ён кіруе прадстаўніцтвам арганізацыі ў Вашынгтоне.

**(Карэспандэнт:)** "Джонатан, якія акцыі, прысьвечаныя Беларусі, Вы зараз праводзіце?"

**(Дж. Крок:)** "Мы спрабуем наладзіць кантакты са студэнтамі і людзьмі, якія працуюць у Вашынгтоне, хто цікавіцца справамі Беларусі і хоча паспрыяць дэмакратычным зьменам у гэтай краіне. Мы хочам, каб кіраўніцтва Беларусі ведала, што сусьветная супольнасьць неабыякавая да парушэньня правоў чалавека. 2 сьнежня мы прыйшлі да амбасады Беларусі, каб выказаць свой пратэст супраць выключэньня Тацьцяны Хомы з унівэрсытэту. Нашая мэта таксама ў тым, каб людзі ў Беларусі, Эўропе і па ўсім сьвеце ведалі, што мы салідарныя зь беларускім народам. Мы наладжваем сувязь зь мэдыямі й вашынгтонскімі карэспандэнтамі. Падкрэсьлю, што гэта асабліва важна перад выбарамі ў наступным годзе. Мы адкрытыя для ідэяў і прапановаў. Кожны можа зьвязацца са мною па адрасу: ***crockj@gmail.com***, каб выказаць свае меркаваньні."

**(Карэспандэнт:)** "СГД мае сябраў сярод студэнтаў, якія жывуць у Беларусі?"

**(Ч. Шром:)**: "Зараз у нашую арганізацыю не ўваходзяць жыхары Беларусі, але ў нас шмат сяброў, якія нарадзіліся ў Беларусі. У нас трывалыя сувязі па ўсёй краіне, што дапамагае быць у курсе справаў і каардынаваць нашыя дзеяньні, каб дасягнуць максымальнай эфэктыўнасьці. На нашую думку, сёньня лепш працаваць з існуючымі беларускімі арганізацыямі, чым спрабаваць стварыць уласнае прадстаўніцтва."

**(Карэспандэнт:)** "Беларускія студэнты ўваходзяць у Вашую арганізацыю?"

**(Дж. Крок:)** "Так. Беларускія студэнты прымаюць актыўны ўдзел. Мы атрымліваем ад іх вялікую падтрымку. На пікеце ў Вашытгоне беларускія студэнты таксама прымалі ўдзел."

У ЗША беларускія студэнты актыўна падтрымлтваюць акцыі СГД. З дапамогай гэтай арганізацыі сталі магчымімі штомесячныя дні Салідарнасьці. У бягучы момант СГД назірае за сытуацыяй з выключэньнем студэнткі Тацяны Хомы з ўнівэрсытэту. Кожны студэнт ці неабыякавы чалавек можа далучыцца за "Студэнтаў за Глябальную Дэмакратыю". Сп. Шром упэўнены, што студэнты, калі аб'ядноўвацца, могуць зрабіць сьвет лепшым, і гэтая вера дапамае яму змагацца за свабоду і справядлівасьць.

*Стась БУРШТЫНОВІЧ*

## АБ'ЯВА

**16 сьнежня з 12-й да 4-й гадзіны папаўдні адбудзецца пікетаваньне беларускай амбасады ў Вашынгтоне. Акцыю пратэсту праводзіць арганізацыя *"Студэнты за Глябальную Дэмакратыю"* ў межах Дня Салідарнасьці, які праходзіць у Беларусі 16-га дня штомесяц.**

**Запрашаем кожнага, каму неабыякавы лёс Беларусі, далучыцца да гэтай акцыі.**

Месца правядзеньня:
Перад амбасадаю Рэспублікі Беларусь
*1619 New Hampshire Avenue NW*
*Washington, DC 20009*
*(Каля 18th and New Hampshire Ave)*
Праезд мэтро: да станцыі *Dupont Circle* (Red Line).
Кантакты: *Jonathan CROCK*
*Tel: 202-296-3585, E-mail: crockj@gmail.com*







*Удзельнікі пікету ў Вашынгтоне 2 сьнежня сёлета.*

# бачына

## Студэнцкія навіны

### Студэнтку пакаралі за актыўнасьць



Тацьцяну Хома выгналі з 4-га курсу Беларускага Эканамічнага Ўнівэрсытэту 24 лістапада сёлета, адразу пасьля яе абраньня ва Ўправу Саюзу нацыянальных студэнцкіх аб'яднаньняў Эўропы ESIB – буйнейшай эўрапейскай студэнцкай арганізацыі, якая займаецца абаронаю праваў і інтарэсаў студэнтаў у эўрапейскіх краінах. Згодна з афіцыйнай вэрсіяй, Тацьцяну выключылі за прапушчаныя тры дні заняткаў, якія яна без дазволу дэканату правяла ў Францыі, бяручы ўдзел у Зьезьдзе ESIB, дзе яе і абралі ў новае кіраўніцтва арганізацыі.

Навіна аб палітычна матываваным выключэньні Тацяны Хома атрымала шырокі рэзананс у Эўропе. У яе абарону выступіла кіраўніцтва Зьвязу нацыянальных студэнцкіх аб'яднаньняў Эўропы. Паводле старшыні гэтай арганізацыі Вані Івошавіча, лісты пратэсту на адрас рэктара БДЭУ накіравалі Асацыяцыя унівэрсытэтаў Эўропы, Асацыяцыя рэктараў Нямеччыны, унівэрсытэт Сарбонна ў Парыжы. Таксама аб сытуацыі ў Беларусі паведамленыя Рада Эўропы і Эўракамісія. Тацьцяна сустрэлася з прадстаўнікамі менскага офісу АБСЭ, якія атрымалі зварот эўрапейскіх структураў АБСЭ прасачыць за справаю Тацьцяны і таксама сачыць за сытуацыяй з выключэньнямі студэнтаў у Беларусі надалей. Толькі за два дні актывісты студэнцкай арганізацыі з Нарвэгіі сабралі ў падтрымку Тацяны Хомы 2000 подпісаў у Інтэрнэце з больш чым 40 краінаў.

Студэнты БДЭУ выказваюць салідарнасьць з Тацьцянай Хома. З 29 лістапада студэнцкі камітэт вырашыў распачаць бестэрміновы паўгадзінны страйк кожны дзень а 9 гадзіне раніцы. Студэнты заклікаюць зьбірацца каля галоўнага корпусу навучальнай установы ці выходзіць усёй групай з аўдыторыі, каб паказаць свой пратэст супраць крывадушнага загаду рэктара.

### Забароненая "Студэнцкая Думка"




Маладзёвы часапіс "Студэнцкая Думка" забаронены да распаўсюджваньня. 16 лістапада міліцыянты наведалі буцікі ды іншыя модныя крамы Менску, дзе працяглы час бясплатна распаўсюджваецца часопіс. На ўладальнікаў крамаў былі складзеныя пратаколы і ўзятая падпіска аб тым, што яны больш ня будуць распаўсюджваць няўгодны ўладам часапіс. Людзі, якія былі ў гэты час ў крамах, былі вельмі абураныя такімі дзеяньнямі ўладаў. Па іх аповедах, міліцыянты нават забіралі часапіс з рук тых пакупнікоў, хто ўжо пасьпеў узяць сабе асобнік. Замест тлумачэньня людзям казалі: "Цяпер "Студэнцкая Думка" запрещена".

Рэдакцыя часапіса ў разгубленасьці: "Мы не рабілі нічога супрацьзаконнага і таму ня ведаем, чаму так атрымалася. Але зараз спрабуем разабрацца ў сытуацыі".

Часапіс "Студэнцкая думка" мае вялікую гісторыю. Аднайменнае выданьне выходзіла ў пачатку 20-га стагодзьдзя. У пачатку 90-х яно было адноўленае, як невялічкае выданьне "Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў". Але пазьней, дзякуючы галоўнаму рэдактару часапіса Ірыне Віданавай, "Студэнцкая Думка" стала паўнавартасным незалежным часапісам. З характэрным для такіх выданьняў якасным друкам і глянцавымі старонкамі. "СДзічка", як называюць часапіс адданыя чытачы, піша пра маладых людзей, стыль, моду, музыку ды іншыя цікавыя тэмы з жыцьця маладога пакаленьня. "Студэнцкая Думка" – унікальны для Беларусі часапіс. Ён выдаецца па-беларуску, клясычным правапісам, і яго чытае пераважная большасьць актыўнай моладзі.

### Менскіх студэнтаў - на будоўлю

Менскія студэнты сталі бясплатнаю працоўнаю сілаю. Адміністрацыі менскіх навучальных установаў, якія масава накіроўваюць сваіх студэнтаў на будоўлю Нацыянальнай Бібліятэкі, апініяй самой пацікавіцца. Студэнтаў ВНУ накіроўваюць на працу цэлымі групамі, дзе яны вымываюць памешканьні да будаўнічага бруду. Натуральна, што такі загад выклікаў абурэньне сярод студэнцкай браты, тым больш, што за прагул "пачэснай працы" да студэнтаў "будуць прымяняцца жорсткія меры".

# Падару верш небу

Яўген Лёсік - малады беларускі паэт, які ў няпоўныя дваццаць год піша творы, здольныя заінтрыгаваць нават мэтраў літаратурнага Парнасу. Адметны сьветапогляд Яўгена прываблівае чытачоў сваёй медытатыўнасьцю і роздумам. Заклікаючы: "Божа, прышый мне крылы," - ён вырываецца з прасторы часу і пераносіцца ў абсалют. Як нярэдка здараецца зь людзьмі, пачуцьцё неабходнасьці чуць родную мову прыходзіць менавіта на чужыне. Ня стаў выключэньнем і Яўген. Ужо праз два тыдні па пераезьдзе ў Ніам, што ў Нямеччыне, ён напісаў свой першы верш па-беларуску. Праз год нядаўнія паэтычныя экспэрымэнты, а цяпер арыгінальныя вершаваныя радкі, пабачылі сьвет на старонках нефарматнага часапіса "Тэксты".

Чытаючы творы Лёсіка міжволі ўзгадваюцца пункціры й зномы Алеся Разанава. Яўген і сам падкрэсьлівае, што фармаваньне ягонага паэтычнага таленту не адбылося без уплыву беларускіх літаратараў.

(Яўгень Лёсік:) "Творчасьць Алеся Разанава мне вельмі падабаецца, і, напэўна, я ягоны ўплыў адчуваю (хочацца нават вастрэй адчуць). Але я лічу, што больш ўплывовымі сталі Ільля Сін, Зьміцер Вішнёў, Леанід Паўлёнак і Ян Баршчэўскі."

Сваe роздумы аб жыцьці Яўген называе "словадумкамі". Яны ахопліваюць і трактары на полі, і вішнёвае сочыва, і "звычайназялёную вясну". Словы зьліваюцца ў адную доўгую думку, што ахоплівае ўсё жыцьцё паэта. Ня гледзячы на параўнальна нядоўгі літаратурны вопыт, Яўген цэліць свае радкі высока, каб "падарыць верш небу."



Аўтапартрэт Я. Лёсіка

### З цыклу "Літары"

сваю тэрыторыю абнясу плотам
пасажу на ёй дрэва кветкі і вершы

***

не пужайце не ганіце маіх птушкавершаў
вучыцца лятаць вельмі цяжка
оньто яны выпархнулі з травы

***

шукаю-зьбіраю сябе
у адно складаю

***

налью сабе шклянку
Паэзіі

***

рукамі
да крыжу прыбітымі
не ўзмахнеш

***

калі спаліць усе колеры
застанецца шэры й чорны
шэры й чорны
попел колераў

***

тэрарыстычныя напады
на душу
зьдзейсьнівае матэрыя

***

думка мая
зраблю табе крылы
ляці на волю

### Словадумкі

**ФАНТАЗІЯ**

усход майго сонца
мая зорка
мая Азія
ў вясковай хатцы
чырвоны яблык на белым абрусе
мае мроі
мае горы
й тазікі
ў іх плаваюць ледаколы
дзяўчынка Зося з Фаніпалю
ідзе па менскіх вуліцах
на якіх не ляжаць фанцікі
і спрэс міліцыянты
Зося прыгадвае казку
пра Нуф-Нуфа і Наф-Нафа
трымаючы адной ручкай тату
а другой маму
яны праходзяць ля сядзібы БНФ

### Каляровыя вершы

**ПАДАРОЖЖА ВАКОЛ СЬВЕТУ**

папяровы карабель караблічак
плавае ў жасьцяным тазіку
плавае ў цынковай балеечцы
ці яшчэ ў якой пасудзіне

папяровы карабель караблічак
плавае ў ціхім моры
плавае ў акіяне
у вялікай вадзе фіялетавай

папяровы карабель караблічак
бачыць прыгожыя выспы
з чароўнымі краявідамі
і ветлівымі людзьмі

папяровы карабель караблічак
сустракаюць белыя чайкі
сустракаюць шпаркія дэльфіны
карабель рады сустрэць іх

папяровы карабель караблічак
плыве ў якойсьці пасудзіне
у вялікай вадзе плыве
падарожжа вакол сьвету ладзіць

**ГАДЗІНЬНІКІ**

гадзіньнікі гадзіньнікі гадзіньнікі
гадзіньнікі бываюць розныя
гадзіньнікі бываюць зы стрэлкамі
гадзіньнікі бываюць пясочныя

гадзіньнікі бываюць сонечныя
гадзіньнікі бываюць электронныя
кварцавыя й прыродныя
гадзіньнікі бываюць розныя

гадзіньнікі бываюць бязстрэлачныя
гадзіньнікі бываюць безпясочныя
гадзіньнікі бываюць бязсонечныя
безэлятронныя бязкварцавыя
безпрыродныя

гадзіньнікі бываюць розныя

## Нашая фанатэка

# Песьні, нібыта шчасьце...




Калі ўпершыню ў 1989 годзе ў Беларусі адбыліся гастролі Багдана Андрусішына-Данчыка гэта было расцэнена беларусамі мэтраполіі, як сапраўдны падарунак і духовая падтрымка ад беларусаў эміграцыі. Цяпер прыйшла чарга беларусаў з гістарычнай радзімы. Іх намаганьнямі быў зроблены падарунак у адказ: у краіне распачалося перавыданьне на кампакт-дысках усіх альбомаў Данчыка –"Беларускага салаўя Амэрыкі", як яго ў той момант называлі і дзяржаўныя, і нацыянальна-вызваленчыя выданьні.

Цяпер Беларусь – зусім не тая, што была падчас першага і другога наведваньня сьпеваком. Зусім іншыя палітычныя і эканамічныя варункі, зусім іншыя адносіны ўладаў да нацыянальна-культурнага Адраджэньня. Дзяржаўныя СМІ пад страхам ліквідацыі ні радком не ўзгадваюць Данчыка, бо сьпявак, акрамя іншага, выконвае абавязкі кіраўніка Беларускай службы Радыё "Свабода". Дый эканамічны стан нацыянальнай культуры і яе структураў цяпер трымаюцца больш зь дзейнасьці грамадзкіх ініцыятываў. Дзяржаве-ж не да гэтага – знайсьці-б грошы на правядзеньне "Славянскага базару" ці выправіць чарговую расейскамоўную пасрэднасьць на "Эўрабачаньне"...

У такой сытуацыі выдаўцы "Беларускай музычнай альтэрнатывы", што працуюць пры Таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны, зьвярнулі ўвагу на неацэнны музычны скарб – ранейшую песенную творчасьць і альбомы Данчыка, што выдаваліся, нажаль, толькі на касэтах і вініле. Цяпер іх чакае больш унівэрсальны фармат. А значыць, гэтае перавыданьне будзе спрыяць пашырэньню ведаў пра творчасьць Багдана Андрусішына-Данчыка – выдатнага беларускага сьпевака і грамадзкага дзеяча, нашчадка роду Луцкевічаў.

А распачынае "Беларуская музычная альтэрнатыва" гэтую сэрыю перавыданьняў данчыкавай фанаграфіі ягоным альбомам "Я ад вас далёка" (1985).

Знаўцы творчасьці Данчыка называюць праграму гэтага дыску адною зь лепшых у рэпэртуары сьпевака. Бо гэта альбом-гуканьне да далёкай невядомай Радзімы, да людзей, якіх клічуць, як і Данчыка, беларусамі. Такое можна сказаць пра адзін з самых яскравых твораў названага альбому – аднайменную песьню Міколы Куліковіча на верш Янкі Купалы "Я ад вас далёка". Лірызм ёйнай мэлядычнай лініі дапаўняецца тут высокай паэзіяй, якая гарманічна спалучаная ў адзіны твор. Акрамя гэтага, трэба адзначыць аўтара аранжыроўкі О. Кузышына, які вельмі прафэсыйна аздобіў мэлёдыю песьні і зрабіў свой унёсак у стварэньне нацыянальнага песеннага шэдэўру. Адзначу тут працу і амэрыканскіх гукарэжысёраў Angel Sandoval, Craig Brabley, Steve Sauber, якія пры запісу ўсяго альбому стварылі на дыску такую атмасфэру, калі слухач адчувае сябе нібыта на канцэрце сьпевака. Бо вельмі натуральна і дасканала "прапісаны" вакал і інструмэнты, што суправаджаюць сьпевы Данчыка.

Свой унёсак у вяртаньне альбомаў Данчыка да сучасных слухачоў унёс і беларускі гукарэжысёр лічбавага рэмастэрынгу Сяргей Лабандзіеўскі. Дзякуючы ягонай руплівасьці дыск не страціў свайго гукавога шарму, а яшчэ ў нечым і прыдбаў новых акустычных якасьцяў. Асаблівасьць гэтага перавыданьня – наяўнасьць мультымэдыйнай часткі. У ёй слухачы зь Беларусі змогуць ажывіць свае ўспаміны адносна канцэрту Данчыка ў філярмоніі ў 1996 годзе...

Калі-ж вярнуцца да музычнай часткі дыску і больш уважліва зірнуць на структуру праграмы, то можна заўважыць, што альбом складаецца з апрацовак нацыянальнага фальклёру, твораў эміграцыйных кампазытараў, песень беларускіх савецкіх кампазытараў. Фальклёрныя апрацоўкі прадстаўляюць Данчыка як даволі ашчаднага інтэрпрэтатара народных мэлёдыяў, які ўкладвае ў іх душу і сваё разуменьне спадчыннасьці гэтага скарбу ("А ў полі вярба", "Перапёлачка"). А вось у творах, што выконваліся ў Беларусі, напрыклад, "Песьнярамі", Данчык імкнецца вырвацца з пад уплыву гэтых аўтарытэтаў і ўнесьці ў знакамітыя песьні сваю долю адметнасьці й пачуцьцяў ("Мой родны кут", "Вы шуміце бярозы"). Асабліва гэтае імкненьне відавочнае пры выкананьні песьні А. Пахмутавай і М. Дабранравава "Белавеская пушча". Тут саюзьнікам Данчыка выступіла яшчэ адна знакамітая эмігрантка – паэтка Натальля Арсеньнева, чый пераклад тэксту напоўніў песьню сапраўдным нацыянальным кантэкстам і спрадвечнымі пачуцьцямі, што заўсёды будзілі душу беларуса. Таксама Данчык прапануе і своеасаблівы ўрок музычнай гісторыі – сьпявае мала вядомую нават у Беларусі лірычную песьню "Не шукай" знакамітага аўтарскага дуэту Ісака Любана і Адама Русака.

Бадай самым уражваючым творам дыска "Я ад вас далёка" слухачы заўсёды называлі песьню Сяргея Новіка-Пяюна "Зорачкі". У аўтара гэтых радкоў было некалькі асабістых назіраньняў таго, як аўтар твору адносіўся да выканаўцы ягонага песеннага шэдэўру.

У траўні 1992 году ў артыкуле "Гасьцёўня расчыніла дзьверы", што быў надрукаваны газэтаю "Голас Радзімы", я распавядаў пра тое, як Сяргей Новік-Пяюн горача вітаў выкананьне ягоных "Зорачак" Данчыкам (якую чуў тады ў запісе) на сустрэчы зь менскай інтэлігенцыяй у гасьцёўні імя У. Галубка. Там было сказана, што аўтар песьні "Зорачкі" быў расчулены такім пранікнёным і лірычным сьпевам...

Былі й іншыя акалічнасьці нашай размовы: спадар Новік-Пяюн распавёў, што ў той дзень – 28 сакавіка – споўнілася 63 гады гэтай песьні, і што ён шчасьлівы, што "Зорачкі" так прыгожа засьпяваў "Беларускі салавей Амэрыкі". І цяпер яму здаецца, што жыцьцё ягонае не было марным! Сяргей Новік-Пяюн у той сакавіцкі вечар 1992 году быў сапраўды шчасьлівы! Гэтыя цудоўныя пачуцьці сваімі сьпевамі падарыў былому вязьню фашысцкіх і камуністычных турмаў менавіта Данчык. Той момант вечарыны зафіксаваў мой калега, журналіст і фатограф Зьміцер Чаховіч. Нажаль, гэта быў адзін з апошніх прыжыцьцёвых здымкаў Сяргея Новіка-Пяюна...


Сяргей Новік-Пяюн

*Анатоль МЯЛЬГУЙ*
*Фота З.ЧАХОВІЧА*

## Рэцэнзіі

# Аб сьвеце, якога ўжо няма

**Jan Bulhak. Kraj lat dziecinnych. *Gdynia. ASP Rymsza. 2003, б. 288, фотаздымкаў 92.***

Наш зямляк славуты фатограф Ян Булгак (06(18). 10. 1876 – 04. 02. 1950) нарадзіўся ў маёнтку Асташын Цырынскай воласьці Навагрудзкага павету (цяпер Карэліцкі раён Гродзенскай вобласьці). Род Булгакаў паходзіць з крымскіх татараў, якія пасяліліся ў Беларусі ў пачатку XVI-га стагодзьдзя. Аднак прозьвішча Булгак успамінаецца ў кроніках яшчэ раней, з часоў Вітаўта, г. зн. з XV-га стагодзьдзя. Продак Яна Булгака, які браў удзел у вайне з Масквою ў 1530-36 гадох, пасьля пасяленьня ў Беларусі быў ахрышчаны імём Сямён, праўдападобна, у праваслаўную веру. Булгакі былі шляхтаю, мелі свой герб Сыракомля.

Варта тут успомніць, што з роду Булгакаў выйшла два япіскапы грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы: Юры Булгак, япіскап Пінскі і Тураўскі, а таксама архімандрыт Супрасьльскі, памёр у 1769-м годзе. А другі, Булгак Ігнат Юзафат, быў япіскапам Брэсцкім і Мітрапалітам, які перад скасаваньнем Уніі прымушаў вернікаў ісьці назад у праваслаўе. Памёр у 1838-м годзе.

Дзеля таго, што грэка-каталікамі былі выключна беларусы ды ўкраінцы, можна з упэўненасьцю сказаць, што Булгакі былі беларусамі.

У 2003-м годзе ў Гдыні ў Польшчы выйшла кніга Яна Булгака пад назваю "Край дзіцячых гадоў". Назва гэтая ўзятая зь вядомай паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Гэтую кнігу ўспамінаў пісаў ён доўга, ад студзеня 1940-га году да кастрычніка 1942-га ў Вільні. Але яшчэ больш кніга чакала свайго выданьня, аж 61 год. У кнізе аўтар дэтальна апісвае свае першыя 11 год жыцьця ў Асташыне, сваіх крэўных, іхныя звычаі, клопаты й радасьці, а перад усім любоў да маці. Узгадвае ён шмат блізкіх і далёкіх шляхоцкіх двароў, палацаў і іхных жыхароў.




Ян Булгак вельмі любіў сваю Навагрудчыну, для яго не было прыгажэйшага і даражэйшага краю на сьвеце. Там былі дрымучыя лясы зь ягадамі й грыбамі, даліны й узгоркі, азёры, рэкі, нязьлічоная колькасьць птахаў і зьвяроў. Сваю Навагрудчыну ён параўноўваў з маляўнічай Швайцарыяй і апісваў у стылі, які можна назваць паэтычным. Аўтар часта ўжываў мэтафары, параўнаньні. Няма сумніву, што Я. Булгак быў адораны вялікім пачуцьцём эстэтыкі, якое выявілася ў апісаньнях прыроды й людзей, у нязьлічаных панарамных фатаздымках Навагрудчыны.

Служба ў двары ў Асташыне складалася зь мясцовых беларусаў. Бацька Яна, Валеры, добра ведаў беларускую мову і карыстаўся ёю ў штодзённых зносінах зь мясцовым насельніцтвам. Мала таго, з ахвотаю гаварыў па-беларуску і дома. Цытуем аўтара: "Але любіў ён (бацька) беларускае нарэчча, як штосьць роднае на раўні з польскаю моваю, і з ахвотаю карыстаўся ім нават у размовах з намі, цытуючы якуюсь народную прыказку ці выраз..." І тут дзеля прыкладу ў кнізе пададзена шмат беларускіх прыказак. Вось некаторыя зь іх: "Кінь за сабою, а знайдзеш перад сабою"; "Усе дзеўкі як ангелочкі, адкуль гэтыя жонкі бяруцца?"; "Усе бабры дабры, адна выдра ліхая"; "Свая сярмяжка нікому ня цяжка". Сам Ян Булгак таксама добра ведаў беларускую мову і карыстаўся ёю.

Як ведама, магнаты, шляхта, землеўласьнікі браліся шлюбам з асобамі сваёй сацыяльнай клясы. Дзеля гэтага шмат шляхецкіх родаў на Навагрудчыне былі павязаныя сваяцтвам праз шлюбы. Часам даходзіла да таго, што браліся шлюбам з сваімі стрыечнымі братамі ды сёстрамі. Ды і сам Ян Булгак быў жанаты на стрыечнай сястры. Яны мелі крэўных каля Варончы, Любчы, Міра, Міратыч, Турганавіч, Цырына, Атмыта, Менску і іншых мясцовасьцях. У дзіцячых гадох езьдзіў малады Ясь з бацькамі да сваіх, дзе гасьцявалі часам цэлымі тыднямі.

Шмат шляхецкіх і магнацкіх палацаў, якія ўспамінае Я. Булгак у кнізе, сёньня ўжо не існуюць. І толькі ад некаторых зь іх засталіся фотаздымкі. Напрыклад, ад царквы ў Ваўковічах ля Навагрудка, "падчас апошняй вайны яе зьнішчылі... свае людзі. У кнізе ёсьць аж 92 фотаздымкі, зробленыя Янам Булгакам. На іх зьнятыя палацы, двары, краявіды, цэрквы, касьцёлы, кірмашы і г. д. Некаторыя зь іх зробленыя ў пачатку XX-га стагодзьдзя і добра паказваюць гістарычнае мінулае нашага краю.

Кніга выдадзеная на высокім тэхнічным і паліграфічным узроўні. Акрамя ўспамінаў і здымкаў у кнізе ёсьць яшчэ біяграфія аўтара, частковая бібліяграфія, сьпіс здымкаў, даведнік прозьвішчаў, даведнік геаграфічных назваў, зноскі-тлумачэньні галоўнага тэксту. У тлумачэньнях, нажаль, сустракаюцца памылкі, калі ходзіць аб словах "бязьмен", "дзяк", "архірэй". З тлумачэньня аб слове "аер" можна зрабіць выснову, што яно летувіскае.

Кніга пра дзіцячыя гады мусіла быць першым томам успамінаў. У лістападзе 1942-га году Ян Булгак сеў пісаць другі том пад назваю "Палова жыцьця ў Вільні". Напісаць больш за 300 бачынаў. Нажаль, напісаныя бачыны згарэлі ў ліпені 1944-га году. Перад рэпатрыяцыяй у Польшчу аўтар меў намер аднавіць страчаныя запісы, аднак ягоныя намаганьні скончыліся на трэцяй бачыне пісаньня.

Кніга Яна Булгака "Край дзіцячых гадоў", дзякуючы яе паэтычным тэкстам і гістарычным фатаздымкам, знайдзе сабе шмат прыхільных чытачоў ня толькі на Навагрудчыне, але і па ўсёй Беларусі.

P. S. Кніга Я. Булгака была перакладзеная на беларускую мову і выдадзеная ў Беларусі.

*Міхась ШВЭДЗЮК, Англія*

# Лісты ў рэдакцыю

## Выдатная кніга аб выдатных беларусах

Мінула ўжо два гады, як зьявілася кніга Зянона Пазьняка “Гутаркі з Антонам Шукелойцем”. Цяжка ўявіць, колькі працы давялося ўкласьці, каб з асобных “расказаў у нясьпешнай гаворцы” нарадзіўся гэткі твор.

Гэтая кніжка пра чалавека, якога мала ведаюць на Бацькаўшчыне, але на эміграцыі ведаюць ўсе, пра нашага ўсімі паважанага і любімага Старшыню Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Антона Шукелойця, пра ягонае цікавае жыцьцё, поўнае незвычайных падзеяў і складанага змаганьня за незалежнасьць Беларусі, якое ён цалкам прысьвяціў Ёй адзінай.

Але разам з тым гэты твор аб супрацьстаяньні і гераізме цэлага беларускага пакаленьня, якое ў цяжкіх умовах змагалася супраць польскай, расейскай і нямецкай акупацыі, каб здабыць Волю і шчасьце свайму народу.

Мы, маладзейшыя, нічога не ведалі пра тую даволі нядаўнюю пару палітычнага змаганьня, удзельнікаў і сьведкаў якога ўжо амаль не засталося.

А тут у кнізе З. Пазьняка з успамінаў відавочцы і ўдзельніка адкрыўся цэлы пласт невядомых нам раней падзеяў і людзей, якія паклалі свае жыцьці за нашую Волю і лепшую долю, каля трохсот імёнаў і, вядома-ж, гэта толькі часьцінка з тых, каго абылгалі й расстралялі ў Курапатах, саслалі ў Сібір, згнаілі ў турмах, Гулагу й выгналі ў эміграцыю, абвясьціўшы іх здраднікамі й ворагамі народу.

Пачатак 1940-га году. У вёсцы Гай былой Віленскай вобласьці, дзе насельніцтва ў асноўным складалася з старавераў, сакратар партыі, пры якім, як інспэктар школаў, прысутнічаў Антон Шукелойць, прапанаваў стварыць расейскую школу. Жыхары спыталі: “А якая гэта дзяржава?” Партыец сказаў, што “гэта ёсьць Беларусь, БССР.” –“Ну, як Беларусь – дык мы патрабуем беларускай школы.” – быў адказ старавераў.

Беларусы заўжды паважліва ставіліся да нацыянальных меншасьцяў на сваёй зямлі. І школы некалі ўтвараліся ў прапарцыйных суадносінах з нацыянальным складам насельніцтва. А расейскія бальшавікі, на чале з НКВД, рабілі ўсё, каб зьнішчыць нацыянальныя школы і насадзіць паўсюдна расейскія, каб русыфікаваць моладзь і тым зьнішчыць нацыю.

У кнізе выкладзеныя надзвычай цікавыя факты. У першы-ж год нямецкай акупацыі беларускія патрыёты, якія вельмі добра разумелі, што немцы ня ёсьць прыяцелямі Беларусі, пайшлі на адміністрацыйныя пасады, бо гэта было неабходна дзеля беларускай справы, дзеля будучыні краіны й народу. Інакш пасады занялі-б чужынцы з захаду - палякі ці з усходу - расейцы.

Беларуская адміністрацыя ў часы акупацыі складалася з патрыятычна настроеных і адукаваных людзей. Яны займаліся ўпарадкаваньнем жыльля, архіваў ЗАГСу, праблемамі экспанатаў Беларускага музэю, аднаўлялі цэрквы й касьцёлы, стваралі беларускія выдавецтвы й школы, ратавалі моладзь ад вывазу на працу ў Нямеччыну.




У кнізе зусім па-іншаму выяўляецца і паўстае перад намі постаць гаўляйтэра акругі Беларусь Вільгельма Кубэ. З успамінаў Антона Шукелойця, Кубэ меў пэўную сымпатыю да беларускага народу. Ён раскрываецца перад намі як цывільная асоба, інтэлігентны чалавек і пісьменьнік, які “адыйшоў ад генэральнай лініі фашызму “. Калі пачалі масава зьнішчаць жыдоў, Кубэ выклікаў да сябе шэфа СД і вельмі рэзка выказаў свае адмоўныя адносіны, сказаўшы, што “гэта ёсьць кампрамэтацыя народу, які вырасьціў Гётэ і Шылера і г. д.”

Таксама даведваемся, што ў 1941-м годзе тыя дзеячы, якія працавалі ў беларускай адміністрацыі, стварылі падпольную арганізацыю супраціву. А ў 1942 годзе ў падпольлі паўстала Беларуская Незалежніцкая Партыя, якая ставіла мэтаю незалежнасьць Беларусі.

Мы даведаліся, што пры Кубэ ў 1942-м годзе быў вялікі зьезд настаўнікаў і інспэктараў школаў. Уся адукацыя была перавезеная на беларускую мову. Рыхтаваліся падручнікі.

Зразумела, немцы не прадугледжвалі агульнай адукацыі акупаванага насельніцтва, але ім былі патрэбныя адукаваныя прафэсыяналы. Таму створанае беларускай адміністрацыяй мноства сярэдніх агульнаадукацыйных школаў прыкрываліся прафэсыйнымі назовамі: “мэдычная”, “гандлёвая” і г. д. Удалося нават стварыць мэдычны інстытут і настаўніцкую школу. Гэтыя школы баранілі моладзь ад вывазу ў Нямеччыну.

З кнігі мы даведаліся, што Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ніколі не супрацоўнічала зь нямецкай фашыстоўскай адміністрацыяй і, што яна не стала на заганныя пазыцыі “непрадрашэнства”.

Ня мае сэнсу пераказваць зьмест кнігі, якая выйшла накладам 1150 асобнікаў і ёсьць на інтэрнэце па адрасу: ziaпопра niak.de/ Кніга пабудаваная ў форме пытаньняў і адказаў і чытаецца на адным дыханьні і ўспрымаецца як цэласнае апавяданьне, як нясьпешная гутарка двух аднадумцаў і ствараецца ільлюзія, што і мы, чытачы, знаходзімся побач зь імі, удзельнічаем у іхнай нетаропкай гаворцы. І дасягаецца гэта, на маю думку, прадуманымі й лягічна выстраенымі пытаньнямі аўтара, якія скіроўваюць гаворку ў пэўнае русла, не разьменьваючыся на дробязнае. Размаўляюць два разумныя чалавекі. Адзін – памайстэрску ўмее “разгаварыць” свайго старэйшага сябру, выказваючы пры гэтым ўласныя глыбокія думкі і разважаньні, другі – шчыра апавядае пра падзеі, сьведкам і ўдзельнікам якіх яму давялося быць. Кніга праілюстраваная шматлікімі фатаздымкамі, шмат зь іх друкуюцца ўпершыню.

Кніга ня толькі праліває сьвятло на падзеі тых гадоў, але й падказвае, што нашую шчасьлівую долю цяпер павінны вырашаць і будаваць не чужыя “добрыя дзядзькі” з Нямеччыны, Польшчы, ЗША, а мы самыя, бо чужынцы зацікаўлены ў сваёй карысьці, а не ў нашым дабрабыце.

Хочацца падзякаваць за зьяўленьне гэтай кнігі ў сьвет, за сьветлы розум, памяць і самаахвярнае жыцьцё на карысьць Беларусі й нашаму народу Антону Шукелойцю і Зянону Пазьняку.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***

---

Прайшоў год ад таго часу, як у нашую сямью прыйшло гора, калі майму сыну Антону паставілі дыягназ: рак лімфатычнай сыстэмы, і перавярнуўся сьвет, і зямля пайшла з-пад ног...

Прайшоў год, і цяпер, азірнуўшыся, можна асэнсаваць, які гэта быў іспыт для нас усіх: і для Антона, і для мяне, для нашых сяброў і атачэньня, усёй нашай суполкі. Год мы правялі ў атачэньні ўвагі, малітваў, дапамогі й пытаньняў пры кожнай сустрэчы: “Як там Антось?” – сябры блізкія й дальнія, знаёмыя й незнаёмыя шчыра дапамагалі нам і маральна, і матар'яльна. Справа ў тым, што падчас хваробы Антона перад нашай сямьёю паўстала яшчэ адная праблема: па стану здароў'я я таксама не магу працаваць, і Антон быў адзіным кармільцам у сям'і. Мы апынуліся тады ў тупіку.




На дапамогу прыйшла нашая суполка: Рада парафіі Сьв. К. Тураўскага ў Таронта, а менавіта Марыя Ганько, потым далучылася й Управа ЗБК – так зьявіўся ліст з просьбаю аб дапамозе нашай сям'і ў газэце “Беларус”.

Мы дзякуем усім, хто адгукнуўся, хто дапамагаў, хто суперажываў і маліўся за Антося!

Дзякуючы Богу, канадыйскай мэдыцыне і вашым малітвам, Антон ачуняў і пераадолеў хваробу.

Антон ужо 5 месяцаў, як поўнасьцю здаровы. У добрым фізычным стане і настроі. Усім падаецца, што ён нават яшчэ падрос (рост у яго 1.90... мо й падрос – ня мерылі...). Даўно ўжо да яго вярнуліся і валасы, і жыцьцярадасны бляск у вачох. Зараз ён у Гуэльфе – навучаецца ляндшафтнай архітэктуры ў тамашнім унівэрсытэце. Збылася ягоная мара: з гэтаю мэтаю – вывучаць ляндшафтную архітэктуру – мы й ехалі ў Канаду.

Дзякуем і тым, хто замінаў. Бо па духоўных законах, тыя недабразычліўцы й праблемы, што напачатку падаюцца нам перашкодамі, урэшце аказваюцца тымі выступамі ў скалах, на якія ставіць нагу, каб падымацца вышэй.

Такім-жа выступам у скале сталася для Антона і сама хвароба. Можна было шокнуцца аб яе галавою і паляцець уніз, але Антон выбраў наступіць на яе. Думаю, адным з галоўных фактараў, дзякуючы якому ўдалося перамагчы хваробу так хутка, зьявіўся сам Антосеў характар. Такая ягоная адметная рыса, як – на мой матчын пагляд – упартасьць. Ён заўсёды быў упартым. Колькі я на гэта наракала, потым махнула рукою: зрэшты, гэта ў нас сямейна-спадчыннае, нават нацыянальнае.



Ледзь-ледзь падняўшы галаву ад прыбіўшага да зямлі шоку, Антон ціха, але безапэляцыйна заявіў: “Я свайго ладу жыцьця не зьмяню і спорту ня кіну. Спорт – маё жыцьцё. Я ўсё роўна буду ганяцца – няхай нават гэта будуць мае апошнія рэйсы.”

...Колькі мне казалі: “Не дазваляй яму пераўтамляцца”. Ат, людцы, што-ж я зь ім зраблю...

Прайшоў год.

І вось 21 кастрычніка сёлета адбылося ўручэньне Антону ***Nigel Williams Award 2005*** “За пэрсанальную сілу й мужнасьць”, якой узнагародзіў яго ***Toronto District School Board***. Вось што напісана ў намінацыйным рэфэрэнсе ўзнагароды:

“Захоплены жыцьцём Школы мастацтваў Этобіка, жаданьнем рэалізаваць сябе ў мастацтве, трымаць высокі ўзровень у традыцыйных навуках школьнай праграмы і, уцягнуты ў грамадзкае й спартовае жыцьцё школы, Антон Варабей з посьпехам упраўляўся ва ўсіх трох дзялянках апошнія тры гады. Тымчасам летась, у выпускны год у Школе мастацтваў Этобіка, у Антона дыягназавалі форму рака, якая паставіла пад пагрозу ягонае здароўе, вучобу, спартовае і грамадзкае жыцьцё...

...Антон, тымчасам, не дазволіў сваім частым наведваньням на хіміятэрапію і радыяцыю зашкодзіць ягонай любові да школы, да мастацтва й спорту, выпрацаваўшы надзвычай пазытыўны пагляд на жыцьцё.

Ён выйграў тры мэдалі ў лёгкай атлетыцы ў спаборніцтвах студэнтаў Таронта і атрымаў тытул Лепшага спартоўца Школы, зрабіўшы найбольш ўнёсак у бэйсбольную, баскетбольную й футбольную каманды. Пры гэтым ён знаходзіў час займацца сваім улюбёным горным роварам і ўвайшоў у дзесятку лепшых роварнікаў у сёлетнім Кубку Антарыё сярод студэнтаў. Ягоны неацэнны ўнёсак у мастацкае таварыства Школы прызнаны сакурсьнікамі й настаўнікамі, якія аддаюць пашану ягоным мастацкім творам. Настаўнікі заўсёды знаходзілі час, каб дапамагчы гэтаму няўрымсьліваму юнаку асягнуць патрэбных адзнакаў у вучобе, і ўрэшце Антон быў прыняты ва Ўнівэрсытэт Гуэлфа на курс ляндшафтнай архітэктуры.

Антосева цьвёрдая воля й моцны дух дазволілі яму праявіць вялікую сілу ў пераадоленьні хваробы і зьвязаным зь ёю эмацыйным разладам.

Без сумневу, Антонава сямейнае жыцьцё, сьціпласьць, настойлівая праца, нязломны дух, непахіснасьць і дасьпеласьць у барацьбе з такою спусташальнаю хваробаю ў такім юным веку ёсьць натхняльным прыкладам для іншых юнакоў, хто сутыкаецца зь цяжкасьцямі.”

Са сьлязамі на вачох... Я ганаруся табою, сын!

Нізкі паклон вам, людзі, хто дапамагаў і маліўся за нас!

***Ірына ВАРАБЕЙ***

***На здымках: А. Варабей з узнагародаю; адна з карцінаў Антона.***

## Новая кніга

На старонках ґазэты "Беларус" сп. Зянон Пазьняк нярэдка намагаецца разгарнуць перад чытачом сутнасьць неэфэктыўнасьці беларускай апазыцыі, у дзеяньнях якой выразна адчуваецца рука пазбаўленага беларускіх ідэалаў лялькавода. Журналіст зь Менску Вітаўт Мартыненка чарговым разам можа падмацаваць слушнасьць высноваў Пазьняка ўласным журналісцкім досьведам. Нібыта апірышчам нацыянальнай журналістыкі асэнсоўваюцца такія структуры, як ґазэта "Наша Ніва", незалежнае радыё "Свабода"... Займаючыся пытаньнямі нацыянальнай музыкі, Вітаўт зьвярнуў увагу, што тут тое "апірышча" чамусьці абапіраецца на дзейнасьць тых, хто напрацягу савецкіх часоў пільна вартаваў "партыйны пункт гледжаньня", каб у сьвядомасчыць нацыі, крый Божа, не пранікла нацыянальная мас-культура. Закрануўшы гэты аспэкт у сваёй рэцэнзіі на новую кнігу пра беларускіх рок-зорак, Вітаўт паспрабаваў не абыйсьці ўвагаю і канкрэтныя прыклады дзейнасьці канкрэтных людзей у той і цяперашні час. Тое, як яму дала гэта зрабіць "Музыкальная газета" (№ 31 за 18.08.2005), вы адчуеце ў новай публікацыі гэтага тэксту (асобным шрыфтом вылучаны фраґмэнты папросту адцэнзураваныя нібыта "незалежным" выданьнем). Ня ўсе факты біяґрафіі "інтэлектуальных лідэраў апазыцыі" трэба ведаць шэраговым апазыцыянэрам? Так што не зьдзіўляйцеся, калі пасьля 2006 году надарыцца ўбачыць нават А.Р.Л-а на пасадзе рэдактара "Нашай нівы" ці палітычным камэнтатарам радыё "Свабода".

# Героі нашага рок-н-рольнага часу

Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ *"Іх МРОЯ, іх N.R.M."*, Мн., 2005, "Сучасны літаратар", 1-320 стар. з ілюстр.




Гадоў ужо дзесяць ня браў у рукі кнігу (за выключэньнем прафэсыйнай работы з выданьнем беларускамоўнага Г. Сянкевіча), бо клясыка даўно перачытана нават па некалькі разоў, а навінкі беларускага кніжнага рынку гэтак далёкія ад жыцьця, што засынаеш ужо на другім абзацы. І раптам сярод усяго гэтага снатворнага трапляе томік нечым асабліва прывабны. Так, гэтае фота на вокладцы я выдатна памятаю: калі ў камсомольскай прэсе 80-х мне даверылі рабіць свой музычны дадатак «Нотны аркуш», акурат гэты здымак Дзімы Вількіна на першай старонцы ґазэты пачынаў мой рэпартаж «РОКАШ, МРОЯ і томік Багдановіча» з гарадзенскага фэстывалю «Рок-Крок». Подпіс пад фота сьведчыў: «Самая папулярная група фестываля» («ЧЗ» № 87 за 25.03.1988). О, а тут яшчэ адзін прыкметны факт і адзнака часу: у беларускамоўнай прэсе тады на слове «рок-гурт» было татальнае табу (толькі зрусыфікаванае «група» ўжывалася), АЛЕ... на віньетцы здымку мы выгравіравалі менавіта «рок-гурт», і цэнзар, што кантраляваў усе тэксты, віньетку якраз і не здагадаўся прачытаць. А ґазэта выходзіла тады амаль 100-тысячным накладам. Так што пазначаны дзень стаў днём вяртаньня ў белмову гэтага панятку, які цяпер ужо агульнапрыняты. Дый дзень-жа які! Потым яго доўга сьвяткавалі як Дзень Волі, але ўжо з іншай прычыны.

Прачытаньне гэтага даволі аб'ёмнага томіка ў добрай глянцавай вокладцы ў мяне заняло ўсяго пару дзён, што таксама пра нешта гаворыць: вельмі захапляльнае чытво, у якім ёсьць усё – і процьма жыцьцесьцьвярджальных фактаў з біяграфіі знакамітых музыкаў, і здаровы гумар, і нават часам дэтэктыўныя завіцені сюжэту.

Памятаеце Алега Піпіна? Наўрад ці, а ягоны-ж гурт «7 герц» называлі тады лепшай мэтал-камандай Беларусі. Ды вось сьпявала яна не па-беларуску, таму таленавіты гітарыст трапіў у гісторыю толькі дзякуючы сваім прабяганьням цераз МРОЮ. А як прабег! Пазбавіліся-ж ад яго пасьля незразумелага ці то забойства, ці то самагубства ягонай дзяўчыны, якую знайшлі павешанай на сасьне падчас наркатычнай оргіі.

Жах! Лепш ужо ня будзем чапаць тут такія старонкі музычнай кнігі. Тым больш, што яна (кніга) як мага лепей прадстаўляе ўсю страўню зорнага жыцьця, усе ягоныя нюансы, усе навароты-перавароты. Скажу шчыра: нават я, які быў жывым сьведкам усёй гэтай гісторыі, знайшоў вельмі шмат невядомых падрабязнасьцяў, за што асобна дзякую Віктару Дзятліковічу.

Дарэчы, Віктар падпісаў мне экзэмпляр кнігі даволі характэрна: «Вітаўту, чалавеку, які пісаў пра беларускі рок можа і цікавейшае, з падзякай за супрацоўніцтва». Дык вось лічу неабходным заўважыць, Віктар, што на такую канцэптуальную рэч, як «Іх МРОЯ, іх N.R.M.», нават я-б не рызыкнуў. Упэўнены, што калі-небудзь наш «Белліwood» здыме захапляючы сэрыял паводле твайго, не пабаюся гэтага слова, сапраўднага раману.

Але літаратурныя вартасьці, магчыма, сыгралі й сваю адмоўную ролю. Вось-жа нават сёньня час ад часу сустракаю пакрыўджаных герояў гэтае кнігі: першы мэнэджэр МРОІ Юрась Мурашка, прэзыдэнт першага беларускага рок-клюбу «Няміга» Анатоль Мяльгуй, першы гітарыст (і заснавальнік МРОІ) Ўладзімір Давыдоўскі.

Мурашкі ў кнізе ўвогуле няма, а вось Мяльгуй ёсьць, але так, мімаходзь, на пару з іншым неўтаймоўным фанатыкам беларускага року – Мартыненкам. Ня буду казаць пра сябе (хоць і я ня ўпісваюся ў схему «вельмі тэмпэраментны, толькі часам нястрыманы журналіст»), але пра Мяльгуя магу сказаць адназначна, што гэта глябальны беларускі філёзаф (дарэчы, асьпірант Інстытуту філязофіі Беларускага унівэрсытэту), без якога нацыянальны рок-рух загнуўся-б яшчэ ў 1985-м, калі МРОІ было два годзікі.

Мне ўвогуле дзіўна, як чалавек, што здолеў асэнсаваць такі аб'ём інфармацыі, заўважыў нават першую зацемку са згадкай пра МРОЮ ў савецкай прэсе (тыднёвік «ЛіМ», 1984), але не заўважыў СЛАНА – першае аналітычнае эсэ Ўсевалада Крамушчанкі «МРОЯ і яе вытокі» на поўпаласы фармату А2 акурат у самы цяжкі для гурта час («ЧЗ» № 20, 28.01.1987). А менавіта-ж яно стала падставаю для разгула антырокавай рэакцыі ў краіне пад верхаводзтвам згаданага ў кнізе "вольнага" (чытай вернапартыйнага) журналіста Д. Падбярэзскага (гл. «Сов.Бел.» № 152 за 03.07.1987) і закрыцьця на пэўны час музычнага выпуску «Нотны аркуш», а потым і рок-клюбу. Цікава, што з-пад рукі таго самага Падбярэзкага, "аўтарытэту" якога даверылася і радыё "Свабода", і "Наша ніва" (?!), цяпер нават "вольнае" замежнае беларускае радыё выказвае шкадаваньні, што на фэстываль "Басовішча" не запрашаюцца іншамоўныя беларускія калектывы. І менавіта-ж Падбярэзскі ў 1987 сустрэў артыкул У. Крамушчанкі (як сталася, надзвычай прарочы) зьневажаньнем самой газэты: "З гэтых невукаў у МРОІ нічога ня будзе, навошта вы дыскрэдытуеце сваю ґазэту".

Пра тых "невукаў" цяпер пішуць кнігі, а Сева наўрад ці пакрыўдзіцца на такі падыход беларускіх рок-гісторыкаў да сваёй асобы, бо гэта даўно ўжо грамадзянін ЗША Стыў Крамэр, які нават не прачытае кнігі. Ды што крыўдзіцца, калі-ж я таксама, хоць і прачытаў, ня крыўджуся, што кніга «Праз рок-прызму» (New York, 1989, «БІНіМ»), якая ўпершыню данесла імя МРОЯ да амэрыканскага кантынэнту, таксама ніяк не згадана. А там-жа быў мой артыкул пра МРОЮ з польскай прэсы. І гэта таксама абмінуты факт. Як і месцы МРОІ ў першым беларускім гіт-парадзе на сапраўды вольных радыёхвалях з Мюнхэну. Так што, чытаючы кнігу В. Дзятліковіча, проста ўлічвайце, што ён чамусьці не пажадаў заўважыць міжнародны кантэкст МРОІ яшчэ з 80-х гадоў.

Зрэшты, гэты кантэкст усё-ж ёсьць, бо даволі цікава распавядаецца пра гастролі гурта ў Польшчы, у Францыі... Я нават упершыню даведаўся, што беларускія музыкі выступалі й у Даніі на грандыёзным фэстывалі ў Роскілдзе з удзелам MIDNIGHT OIL, RED HOT CHILLI PEPPERS, VELVET UNDERGROUND, Chris Isaak, НОВАГА НЕБА і г. д.

Але беларускі кантэкст МРОІ і N.R.M. для аўтара, бадай, важней. Бо нават кнігу сваю ён намагаўся вытрымаць паводле нарматываў так і забароненай дагэтуль клясычнай граматыкі беларускай мовы. Намагаўся, ды... не зусім атрымалася. Возьмем, напрыклад, абкарнатыя пры Саветах варыянты канчаткаў роднага склону, калі можна было сказаць і «словы роднай мовы», і «словы роднае мовы». Але канчатак «е» Дзятліковіч напіхаў усюды, дзе можна й нельга, што нават сам Тарашкевіч не разабраўся б: «Лявон, Алезіс і Ўладзя былі ў крыху іншаЕ сітуацыі.» (стр. 36); «Намесьнік дырэктара не чытаў падручнікаў па чорнаЕ рыторыцы» (стр. 61). Браткі, дык склон-жа тут месны, таму канчатак тут адзін – «Й». Дый, дарэчы, сам апошні прыклад – узорчык клясычнай калькі з расейскае, дзе «муха ползет по столу», а «учебник по риторике». А напісалі-б «Намесьнік дырэктара не чытаў падручнікаў чорнаЕ рыторыкі», дык быў-бы вам і родны склон, і родная лексыка. А то-ж лексыка акурат і кульгае: «Калі не зразумелі, дык закрывайце кнігу», – піша Дзятликовіч. А можна было-б і зачыніць кнігу, заплюшчыць, закаркаваць. Ці ўсё-ж «загарнуць»? Дый называючы горад Слуцак (радзіма Піта Паўлава), варта памятаць, што нават Тарашкевіч напісаў-бы не «ў Слуцаку», а «ў Слуцку», як і «Полацак – у Полацку».

Зрэшты, для музычнай кнігі больш важна пазбягаць музычных памылак. Але-ж і гэтага не ўдалося. Цытуючы водгук пра альбом «28 зорка» часопіса «Студэнцкая думка», В. Д. ніяк не камэнуе занадта неахайнае абыходжаньне ў цытаце з музычнай тэрміналёгіяй: што такое «цяжкі хардавы гук», як не масьлянiстасьць масла. Бо ангельскае hard – гэта-ж і ёсьць «цяжкі».

І яшчэ: я разумею, калі беларускі журналіст брытанскага вакаліста Яна Гілана кліча Ванам Гіланам (далёкі чужаніца ўсё-ж), але навошта-ж Аркадзя Юшына настойліва менаваць Юршыным, калі ён нават у БОНДЗЕ пасьпеў прапісацца перад ад'ездам у Амэрыку. Праўда, ягоны гурт ФОРПОСТ, які ў 80-х быў аргумэнтам таго самага Д.Падбярэзскага ў ягонай барацьбе супраць нацыяналістаў музычнай крытыкі, так і не забясьпечыў яму нават памяць пра колькасьць літараў у прозьвішчы (вось вам і геніяльная надзея беларускага расейскамоўнага року; маўляў, якая розьніца на яком языцэ, абы пальчыкі па струнах бегалі).

Аднак, досыць пра сумнае. Кнігу В. Дзятліковіча ўсё-ж вельмі цікава чытаць. А галоўнае, часам нават весела. Прыкольны маналёг Піта пра наведваньне магілёўскай прыбіральні пакіну на радасьць самім чытачам, а вось французскі эпізод з добра памятным і мне мэнэджэрам Міхалам Амельяновічам не магу не згадаць. Ён на стар. 109: «...адзначыўся мэнэджэр МРОІ Міхал Амельяновіч, які на стрыманае пацісканне рукі памагатай мэра Мішэль Жандэр адказаў трыма моцнымі пацалункамі. Паліцыю не выклікалі: вядомая справа – рокеры, ды яшчэ з Усходу. Праз колькі гадоў шляхам Міхала пайшоў Барыс Ельцын, паспрабаваўшы абняць брытанскую каралеву...»

А для мяне ёсьць і больш асабістыя моманты кнігі, за якія хочацца падзякаваць аўтара нагледзячы на ягонае суб'ектыўнае выкладаньне. Вось, напрыклад, на стр. 95: «Улады рыхтавалі Дні беларускай культуры ў Расеі. Адначасова ў рэдакцыі «Чырвонай зьмены» за кубачкам гарбаты няўрымсьлівыя журналісты Вітаўт Мартыненка і Анатоль Мяльгуй пісалі ліст на саюзную фірму «Мелодия». Пытаньне да гіганту гуказапісу яны паставілі рубам – чаму гэта ён не спрыяе сяброўству народаў, ігнаруе беларускую музычную культуру і не выдае плыты такіх, напрыклад, цудоўных гуртоў, як МРОЯ і УЛІС».

Прыемна, безумоўна, што аўтар дапільнаваў нават такія дробязі, як кубачак гарбаты ў гэтай справе, хоць яго не было з намі, а было польскае піва з буфэту Дома Друку. Але ці не застанецца для іншых дзіўным, як гэта двум маладым журналістам усё-ж удалося пераканаць таго гіганта ды прымусіць выдаць і МРОЮ (альбом «28 зорка», 1990), і УЛІС (альбом «Чужаніца», 1989). Дык-жа не лісты мы пісалі, а артыкулы. І не адзін, а дзесяткі. Пра катастрафічны стан беларускай папулярнай музыкі, пра трагічны лёс многіх талентаў. А я асабіста, штатна працуючы ў ґазэце ЦК ЛКСМБ, нават рассылаў тыя публікацыі на рэагаваньне ў Менск, у Маскву. І перш, чым «Мелодия» паддалася, мяне і ў тую-ж Маскву выклікалі на здымкі тэлепраграмы «Мир и молодежь», і з Масквы прыяжджаў нейкі функцыянэр ЦК КПСС Б. Мешчаракоў, маючы са мной працяглую гутарку ў кабінэце другога сакратара ЦК КПБ Барташэвіча». Былі й перамогі, і рэпрэсіі. І толькі менавіта таму «ліст прыйшоўся да часу і да месца». Мы-ж самыя стваралі свой час. Варта дадаць, што я асабіста веў ліставаньне ня толькі з «Мелодией» пра лёс беларускага року, але й з больш незалежнымі фірмамі Эўропы, Амэрыкі ды нават Азіі (мой прыватны архіў да гэтага часу захоўвае лісты на гэтую тэму з Парыжу, з Варшавы, з Калькутты, з Нью-Йорку...) Як вядо-

***Заканчэньне на бач. 16***



# “ЗАЛАТАЯ СЯРЭДЗІНА”

## У памяць Яніны Каханоўскай
## (26.XI.1909г. – 15.УІІ.2005г.)

На памінальным абедзе 23 ліпеня 2005 году, адзначаючы надзвычайна годнае, даўгое й багатае жыцьцё, я слухала цудоўныя ўспаміны людзей, чыё жыцьцё было закранута Янінай Каханоўскай. І ня нейкім актам адвагі, сьмеласьці ці самаахвярнасьці, хоць яна мела ў сабе й такія якасьці, але проста прысутнасьцяй сваёй шляхотнай натуры, падзяляючы сябе далікатным спосабам, выпраменьваючы сьветлую радасьць, шчодрасьць і дабразычлівасьць. Усё гэта было спалучана з беззасьцярожным прыйманьнем чалавека, якое заварожвала, абяззбройвала й захапляла. Ці ты быў маладым ці старым, дзіцём, падлеткам ці дарослым, яна давала адчуць, што прыймае цябе радасна. Не было ніякіх бар'ераў, якія трэба было перамагчы, яна была поўнасьцю адкрытая й даступная, ніколі не наракала й заўсёды ў добрым настроі, сустракала кожнага аднолькава з гасьціннай лёгкасьцю і адкрытай радасьцю. У 94-гадовым веку яна мела востры розум, якому мог-бы пазайздросьціць чалавек у кожным узросьце. Я яшчэ ўсё памятаю ейную лёгкую й стройную постаць, калі ёй было 92 гады, і калі яна падымалася па сходах на трэці паверх у сваё памешканьне, а я, на дзесяцігодзьдзі маладзейшая, з пыхценьнем намагалася пасьпяваць сьледам за ёю.

Калі яна ўсьміхалася сваёй непаўторнай усьмешкай, ейныя прыжмураныя вочы здаваліся блізу ўсходнімі, праменячыся з-за акуляраў, і ўглядаліся на цябе з суцэльным захапленьнем, задаволеныя, што ты ўшанавала яе сваёй прысутнасьцю. Тыя, хто ведаў яе шмат гадоў, гаварылі пра ейныя добрыя справы й дасягненьні. Але што мяне найбольш уразіла, хоць і ня зьдзівіла, што ўсе згадвалі ейную прамяністую радасную ўсьмешку і тое, як яны адчувалі сябе ў абліччы гэтае сьветлае, залатое якасьці ейнае душы.

Спадарыня Каханоўская, здавалася, была захопленая ўсімі і ўсім. Яна ніколі не паказвала пагарды да чаго-небудзь або каго-небудзь. Дык ня дзіва, што аднойчы адна зь ейных знаёмых не стрымалася, каб не запытацца ў яе, кажучы: “Яніна, павінна-ж быць нешта ці нехта ў Вашым жыцьці, чаго ці каго-б Вы не любілі; гэта-ж ненатуральна, каб жыць і ніяк ня бачыць адмоўнага!” Задумаўшыся на пару сэкундаў, заглыбіўшыся ў думкі й страціўшы на момант сьвятло ў вачох, яна наважана адказала: “Так, ёсьць!” Нецярпліва чакаючы адказу, суразмоўца запыталася: “Што гэта?” І яна сваім салодкім голасам панура адказала з уздыхам: “Камуністы!”.

Калі мы пачулі гэта, мы ўсе засьмяяліся, але адказ ня быў неспадзяваным, паколькі ейная сям'я цяжка пацярпела пад савецкім рэжымам, страціўшы ня толькі дом, але й дарагіх родзічаў, а затым і ўсю сваю краіну. І тады я прыгадала, як аднойчы спн. Каханоўская казала мне: “Не затрымоўвайся на рэчах, якіх ня можаш зьмяніць!” І дадала: “Трэба ўспрыймаць іх са спакоем!” Яна патлумачыла далей, што ня трэба мучыць сябе бясконца жалем, злосьцяй, дакорамі й да гэтага падобным, бо ў рэшце рэштаў гэтыя эмацыйныя ўзрушэньні зруйнуюць чалавеку нутраны супакой і гармонію, заступаючы дарогу да існасьці, да сэрца, дзе ляжыць золата душы. Такая вось прасьвятляльная гутарка адбылася позна аднаго вечару!

Хоць я ведала спн. Каханоўскую ўсё сваё жыцьцё, воляй добрага лёсу я мела магчымасьць зьблізіцца зь ёю працягам апошніх пятнаццаці гадоў. Яна й сп. Антон Шукелойць часта сустракаліся чацьвяргамі й абмяркоўвалі самыя розныя пытаньні палітыкі, гісторыі, містыкі й рэлігіі, у тым ліку “Жыцьцё Ісуса”, апісанае Эрнэстам Рэнанам – кнігу, якую яна папрасіла, і я дастала для яе гадоў два таму, і якую яна прагна прачытала. Мы таксама задумоўваліся над загадкамі жыцьця такімі, як “паходжаньне чалавека” або “ці маюць зьвяры душу”, і над шмат чым іншым. Нашыя размовы, хоць часта на паважныя тэмы, праходзілі заўсёды з гумарам і сьмехам. Мне пашчасьціла быць у прысутнасьці гэтых двух беларускіх 80-гадовых асобаў (якім цяпер за 90) з шырокім вострым розумам і жывымі ўспамінамі ды пачуцьцём гумару, поўнымі joi de vivre, чаго ня было ў маіх маладзейшых сяброў. Яны былі нагэтулькі маладымі, што, па-праўдзе кажучы, я ніколі не адчувала розьніцы веку ў іхнай прысутнасьці. І, як ні дзіўна, думаю, што й яны таксама. Яны належаць да пакаленьня маіх бацькоў, сярод якога панавалі лагоднасьць, далікатнасьць, рыцарскасьць, абыходлівасьць і шчырасьць, а таксама адчуваньне годнасьці – эра, якая, нажаль, даўно мінула.

Падчас усіх нашых гутарак загадкавая ўсьмешка сп-ні Каханоўскай заўсёды сьвяцілася, усё роўна як-бы яна хацела падзяліцца нейкім сакрэтам. Аднаго дня, калі не было іншых гасьцей, і я сядзела зь ёю адна, і мы рыхтавалі абед, яна сказала мне: “Яра, у жыцьці важна знайсьці залатую сярэдзіну!” І мне раптам падумалася, што ў ейнай асобе мы маем “Беларускага Будду”, бо ў яе была буддаўская сьвятліня, якая зыходзіць са спачувальнага добрага сэрца, залатога сэрца мудрасьці, што асьвятляе душу. Яно не патрабуе рабіць фізічную дабрыню, яно проста праменіцца, і ўсе адучваюцца добра ў ягонай прысутнасьці. Гэтак вось і было, што ў асобе Яніны Каханоўскай нябачная духовая існасьць станавілася бачнай, бо ведама, што калі асоба спалучаецца са сваім сусьветным духам або сваёй прыродай, тады зьяўляецца таямніча буддаўскі залаты водсьвет. Кітайцы называюць гэта “татагатаўскім” (the tathagata) выяўленьнем Будды.

Спн. Каханоўская перадавала гэтую залатую выяву на строга няслоўным узроўні. Гэта ня было нечым, што яна казала, хоць для перадачы яна мела шмат мудрасьці й веды, але гэта было ў фокусе ейнае нутраное існасьці, дзе яна знаходзіла “залатую сярэдзіну”, ключ, якім адчыняліся дзьверы ў сфэру, куды пранікаюць толькі мудрацы й сьвятыя – “нірвана” або “рай” на зямлі, якога ня могуць даць зямныя матар'яльныя даброты. І сапраўды, яна не была па натуры матар'ялісткай, яна была сьціплай і заўсёды задаволенай тым, што ёй доля паслала, перш-наперш сваёй сям'ёй і сябрамі. У яе не было імкненьня абжыцца, гэтыя рэчы былі прамінальнай прыемнасьцяй або цяжарам ёй, вартымі, каб імі карыстацца, але не рабіць зь іх фокусу свайго быцьця. Яна магла гадзінамі маўчаць, але ўсё роўна адчувалася ейнае цяпло. Гэта быў усеахапляльны, лагодны абдымак ейнае залатое душы, ён ня быў навязьлівым, асуджальным, заваладвальным або спадзеўным. Ён быў як лагодная акіянская хваля, што мякка пракочвалася праз цябе, або як цудоўны залацісты цьвет, які вылучае прыемны арамат, так што ты ня можаш, каб не адказаць усьмешкай.

І калі нашыя вечары канчаліся ды наставаў час разьвітацца й адыйсьці, яна не хапалася за цябе й не настойвала, што ты мусіш хутка вярнуцца. Ейныя манеры адзначаліся поўнай свабодай і лёгкасьцяй, адбывалася свайго роду натуральнае адлучэньне, што не накладала на цябе абавязку, незалежна ад таго, наколькі яна была захопленая табою, якбы падказваючы, што час пазначаны вечнасьцяй. Мы заўсёды будзем тут, навошта сьпяшацца? Часу будзе заўсёды ўдосталь! Яна ведала з поўнай упэўненасьцю, што так, як прыліў прыносіць акіянскія хвалі, гэтак і ты вернешся ў адпаведны час. Яна выказвала свае прывітаньні й разьвітаньні дакладана аднолькава з радаснай цяплынёй. Можа таму якраз гавайцы вітаюцца тым самым словам пры сустрэчах і разьвітаньнях. Гэта слова “aloha”, якое паходзіць ад дзеяслова “aloha”, што значыць “любіць”. Падобна й зь Янінай Каханоўскай. Яна вітала цябе зь любоўю і праводзіла зь любоўю, цёплай сардэчнай любоўю.

Узважыўшы якасны аспэкт быцьця Яніны Каханоўскай, я думала: так, Яніна, Вы паказалі сьцежку, па якой маглі-б пайсьці ўсе беларусы, калі-б толькі яны паслухаліся ды знайшлі “залатую сярэдзіну” ў сабе самых, а не ў прасторы іншых. Тады, і толькі тады, Беларусь узмоцнілася-б і стаяла-б незалежна як дэмакратычная дзяржава, непадуладная чужым эксплюататарам, якія ня дбаюць пра інтарэсы беларусаў ці Беларусі, ды ад згубнай прагнасьці якіх народ пакутуе, як ніколі ў нашай гісторыі. Беларусь дасьць рады, калі яна перайначыцца ў выніку нутраной “Залатой Рэвалюцыі”, гэта значыць, калі кожны індывідуальна знойдзе нарэшце “залатую сярэдзіну” свае асобы. Тады, калі гэта здарыцца, адпадзе ўсё, што ня ў праўдзе, і пачнецца замацоўваньне новага Залатога Часу для Беларусі й беларусаў. І сапраўды, агонь праўды разгараецца на даляглядзе, і яго нельга будзе стрымаць, бо гэта воля Праўды. Паўда верне сабе ўсё, што было скрадзенае ад яе.

Мая дарагая сяброўка Яніна, дзякую за ўдзел у пашырэньні праўды сваім удзелам у ахвярнай працы на Радыё “Свабода” ў імя Беларусі і за дарагі падарунак натхненьня, што паказаў нам дарогу да праўды, да адзінства, да цэласнасьці й радасьці й да вечнай Боскай любові й сьвятла, якія насяляюць кожнага з нас. Вас заўсёды любасна будзем памятаць у залатой сярэдзіне нашых сэрцаў.

Так што “Aloha” Вам, нашаму радаснаму духу. Хай Ваша нябеснае падарожжа будзе дабраславёна няўяўнымі, цудоўнымі прыгодамі. Пакуль не пабачымся зноў, Aloha!

***(Пераклад з ангельскае Янкі ЗАПРУДНІКА)***

***Яра ТУМАШ***

***Заканчэньне з бачыны 15***

У такіх умовах Рада БНР:

- Зьвяртае ўвагу кіраўніцтва эўрапейскіх інстытуцыяў, урадаў і парлямэнтараў эўрапейскіх краінаў, а таксама ЗША і Канады, да факту, што дасягненьне дэмакратыі ў Беларусі немагчыма без належнага забясьпечаньня нацыянальна-дзяржаўных правоў беларускага народу, зьберажэньня яго нацыянальных каштоўнасьцяў, беларускай культуры, найважнейшым фактарам якой ёсьць беларуская мова;

- Заяўляе, што ўсе двухбаковыя “інтэграцыйныя” пагадненьні, заключаныя ў мінулым або ў будучым паміж пануючай сёньня ў Беларусі антыдэмакратычнай і неканстытуцыйнай уладай ды Расейскай Фэдэрацыяй-пазбаўленыя легітымнасьці й праўнай сілы. Гэтаксама ўдзел дзейснага кіраўніка гэтай улады ў маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі-пазбаўлены канстытуцыйнай падставы;

- Зазначае, што ў такіх умовах падвышаецца роля дыяспары як захавальніка беларускай ідэі, ідэалаў нацыянальнай дзяржаўнасьці Акту 25 Сакавіка. Гэтую яе ролю, нажаль, дагэтуль ня цалкам усьведамляюць пэўныя сэгмэнты палітычнай супольнасьці ў Беларусі. Тымчасам яе добра разумее рэжым Лукашэнкі, які праз сваіх прадстаўнікоў імкнецца раскалоць беларускія арганізацыі ў замежжы. Гэтая сытуацыя накладае на беларускія арганізацыі замежжа надзвычайную палітычную і маральную адказнасьць.

Рада БНР застаецца легітымным выразьнікам сувэрэнных правоў беларускага народу, выяўленых у Акце 25 Сакавіка 1918 году, і пацьвярджае сваю рашучасьць бараніць Незалежнасьць Беларусі ўсімі магчымымі й даступнымі спосабамі.

***З смуткам паведамляем, што 4-га сьнежня 2005-га году адыйшоў у лепшы сьвет беларускі патрыёт, сябра БАЗА, даўгагадовы Старшыня Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага Францішак БАРТУЛЬ (15.11.1918 – 04.12.2005) Няхай яму будзе пухам амэрыканская зямля.***

**BELARUSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, Inc.**
**БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА**

330 Park Street
Haworth, NJ 07641
Tel.: 201 244-0788
e-mail: Janzap@aol.com

1 сьнежня 2005 году

*Спадару Міхасю Кавылю*
*ў Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі*

*Вельмі Паважаны сп. Кавыль!*

*Ад імя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, сябрам якога Вы сталіся шмат гадоў таму, шчыра віншуем Вас зь 90-мі ўгодкамі жыцьця ды жадаем добрага здароўя й творчага натхненьня. Ваша паэзія дзесяцігодзьдзямі ўжо суправаджае наша жыцьцё на чужыне, трымае на духу суродзічаў, якім не стае роднага слова. Яна сталася неадлучнай часткай гісторыі беларускага нацыянальнага руху, трывала ўвайшла ў народную культуру, служыла й служыць абаронцай Беларусі ад захопніцкага нашэсьця. Песьні на словы Вашых вершаў гучаць сёньня як у эміграцыі, гэтак і на Бацькаўшчыне. За ўсё гэта Вам належыцца глыбокая ўдзячнасьць ад Вашых сучасьнікаў і іхных нашчадкаў. Прымеце найлепшыя пажаданьні Вам і Вашай паважанай спадарыні, якая напэўна шмат паспрыяла росквіту Вашай літаратурнай творчасьці.*

*З глыбокай пашанай*
*Вітаўт КІПЕЛЬ, старшыня*
*Янка ЗАПРУДНІК, зас. старшыні*

Рэдакцыя газэты "Беларус" далучаецца да віншаваньня.



*На здымку: Міхась КАВЫЛЬ з сынам падчас прэзэнтацыі кнігі сьвятара Мікаля Лапіцкага 30 кастрычніка сёлета ў Саўт Рывэры, Нью Джэрзі.*

## Героі нашага рок-н-рольнага часу

*Заканчэньне з бач. 16*

ма, беларускія рок-дыскі потым таксама выдаваліся і ў Польшчы, і ў Францыі, і ў Галяндыі. Бо нехта занадта часта сядзеў «за кубачкам гарбаты».

Бяз крыўдаў, зразумела. Але ўсё-ж шкада, што аўтар не зьвярнуўся да другога фігуранта гэтага ліставаньня А. Мяльгуя, тады-б і гісторыя ўдзелу МРОІ ў стварэньні рок-клюбу «Няміга» выглядала-б у Дзятлікові ча інакш. Ён піша, як забрыты ў савецкую армію Вольскі зьдзіўляўся, калі вольнакасіўшы Ляўкоў пісаў яму пра пасяджэньні рок-клюбу (маўляў, ня можа быць рок-клюбу ў Беларусі), а Мяльгуй паказвае мне сваю асабістую перапіску зь Лявонам пра самыя ідэі стварэньня гэтага нефармальнага ўтварэньня.

Вось-жа што можа навярнуць залішняя ўвага да маргіналаў нацыянальнага рок-руху замест павагі да жывых удзельнікаў і стваральнікаў працэсу.

Але гэта не присуд. Кніга атрымалася клёвая й жывая. Чытабельная й зьмястоўная. Самакруткі-б... не рабіць з такіх кніг. Таму што гэта рэальны зрэз перажытага часу. Не нашага асабістага часу, а часу краіны, калі чарговым разам вырашаўся ейны лёс. Дзе быў кожны з нас?

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА**



**Газэта "БЕЛАРУС"**

*бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш.*
*Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*



*Шаноўныя чытачы, дасылайце, калі ласка, калядныя віншаваньні. Яны будуць надрукаваныя ў студзеньскім нумары.*



НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Я. і І. Арцюх | 110 |
| Г. і К. Мярляк | 50 |
| С. Будкевіч | 40 |
| В. Валашчук | 30 |
| І. Фанская | 30 |
| С. Шчэрбацэвіч | 30 |
| Н. Талкачова | 10 |
| Х. Кажаневіч | анг. фунт. 20 |

Замест кветак на магілу Франьцішка БАРТУЛЯ:

| | |
|---|---|
| М. і К. Верабей | 50 |

Замест кветак на магілу Яніны КАХАНОЎСКАЙ:

| | |
|---|---|
| Т. Красоўская і К. Нагорная | 60 |

Замест кветак на магілу Арсеня МОНІДА:

| | |
|---|---|
| І. Сурвілла | 50 |

Справаздача ад М. МАРОЗ з Заходняй Аўстраліі:

| | |
|---|---|
| П. Дарэўскі | аўст. дал. 150 |
| А. Бразоўскі | 50 |
| К. Лашкевіч | 50 |
| М. Мароз | 50 |
| А. Мароз | 50 |
| М. Мігал | 50 |
| Я. Ніжнік | 50 |
| М. Раецкі | 50 |
| Бел. Згурт. Зах. Аўстраліі | 9.15 |

Усім шчыры дзякуй!


**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.



Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.